PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (2033) ГОД XL БЕЛАСТОК 30 КРАСАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Пратэстуюць апазіцыйныя дэпутаты ад Беларускага народнага фронту.* **Фота Сяргея Грыца**

## БЕЛАРУССЮ ЗАКІРУЕ ХУНТА?

На 14 мая 1995 г. запланаваны ў Беларусі парламенцкія выбары. Разам з імі прэзідэнт Лукашэнка задумаў правесці рэферэндум з чатырох пытанняў: аб наданні расейскай мове статуса дзяржаўнай (побач з беларускай), аб змене сённяшніх дзяржаўных сімвалаў — бел-чырвона-белага сцяга і герба Пагоня — нязначна мадыфікаванымі сімваламі БССР, аб эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і аб надзяленні прэзідэнта правам распускаць Вярхоўны Савет.

Рэферэндум павінен быў зацвердзіць Вярхоўны Савет на сваёй апошняй сесіі, 10 красавіка. Зрабіў гэта ў той жа дзень, — як паведамляў менскі карэспандэнт Польскага радыё Уладзімір Пац — 10 хвілін перад канцом дэбатаў. Апазіцыйныя дэпутаты, пратэстуючы супраць гэтага, пачалі 11 красавіка ў зале пасяджэнняў галадоўку. Іхнюю пазіцыю прадставіў з трыбуны Зянон Пазьняк: *Мы, дэпутаты апазіцыі Беларускага народнага фронту, пратэстуем супраць здзеку з нашага народу, з нашай Айчыны, з Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь. Вычарпаўшы ўсе магчымасці, у знак пратэсту супраць антызаконнасці і згубнасці Вашых дзеянняў* (словы скіраваныя да дэпутацкай большасці, якую З. Пазьняк у гэтай прамове назваў „камуністычна-наменклатурнай" — М. В.) *мы аб'яўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залы. Пачынаем яе цяпер з гэтай хвіліны. Мы патрабуем выканання Канстытуцыі, законаў Рэспублікі Беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры, спыніць рабаванне народу і Бацькаўшчыны.*

У гэты самы дзень парламент адхіліў тры з прапанаваных на рэферэндум пытанняў, адкрытай пакідаючы толькі справу інтэграцыі з Расеяй. З такім вырашэннем Лукашэнка пагадзіцца не мог. А тут яшчэ гэтая галадоўка. Галадаючых стараліся прымусіць пакінуць залу, тлумачачы, што паступіў ананімны званок аб падкладзенай там бомбе. Каля трэцяй ночы падзеі пацяклі вокамгненна. Адзін з галадаючых, галоўны рэдактар тыднёвіка „Свабода" так гэта апісвае („Свабода" н-р 15): *... у момант расчыніліся ўсе дзверы, у залу ўварваліся прыкладна 200 чалавек: першымі да нас беглі грамілы ў чорных масках і цёмных камбінэзонах, за імі — спэцназаўцы ў шлемах, рэсьпіратарах з дубінкамі і аўтаматамі (за сьпіною), а па пэрымэтры залы сталі аўтаматчыкі. Накінуліся з усіх бакоў. Выцягвалі спачатку тых, хто сядзеў з краю. На Пазьняка адразу ўскочылі трое, пачалі душыць, круціць галаву, упіўшыся пальцамі ў вочы. Пакуль дацягнуліся да мяне, удалося сарваць некалькі масак. Але потым — удар у сьпіну, схапілі і пацягнулі (за рукі, за ногі). У нейкі момант удалося вырваць адну нагу. Тады схапілі ўжо чалавек шэсьць. Нейкі падонак пачаў біць кулаком у твар. Адчуў, што палілася кроў...*

Акцыяй камандавалі начальнік аховы Дома ўрада М. Цесавец і начальнік прэзідэнцкай службы аховы В. Каралёў.

А вось як пра гэту самую акцыю гаварыў у парламенце Аляксандр Лукашэнка (за газетай „Известия" ад 14 красавіка): *Где-то около двенадцати ночи мне позвонил Михаил Тесовец и со слезами на глазах сообщил, что не получается по-хорошому эвакуировать депутатов. Повынимали ножи, достали лезвия и говорят — первое, вскрываем себе вены, отрезаем себе головы и вас повырезаем.*

„Абараніўшы" дэпутатаў ад іх саміх, на наступны дзень прэзідэнт разагнаў „цікаўных", якія з бел-чырвона-белымі сцягамі спрабавалі былі сабрацца на плошчы Незалежнасці. А 13 красавіка запрапанаваў дэпутатам яшчэ раз разгледзець справу рэферэндуму. І народныя абраннікі, маючы на ўвазе павучальны прыклад рашучасці прэзідэнта, хуценька апрабавалі ўсе пункты. Апазіцыя ў галасаванні адсутнічала. Дарэчы, як і на памятным здымку ды прэзідэнцкім банкеце з нагоды шчаслівага заканчэння працы гэтага Вярхоўнага Савета. Аляксандр Лукашэнка запрапанаваў выпіць па дзвесце грам і раз'ехацца ў згодзе па рэспубліцы. „Хто ведае, можа яшчэ давядзецца нам у гэтым складзе крыху папрацаваць, — прадбачваў прэзідэнт, — дык лепш жыць у згодзе". Меў ён на думцы магчымасць, у якой новы парламент не будзе выбраны. Тады дэпутаты старога не губляюць сваіх паўнамоцтваў. Як пацвердзіў чацвер, 13 красавіка, платформа супрацоўніцтва прэзідэнта з гэтым Вярхоўным Саветам, выпрацаваная.

Васіль Быкаў у „Свабодзе" піша: *Беларусь падае яшчэ глыбей у прорву палітыка-эканамічнага крызісу на выйсьце зь якога страчваюцца апошнія спадзяваньні. (...) Ужо відаць, што на Беларусі ня будзе парламанту, ня будзе выбараў, зьнікнуць рэшткі вольнай прэсы. Краінай закіруе прэзідэнцкая хунта. (...) Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў зь мінулымі выбарамі. Горай ня зробіш — для сябе, для грамадзкасьці, для нашчадкаў таксама.*

**Мікола Ваўранюк**

## ЗАЯВА
### Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польшча

У сувязі з апошнімі падзеямі ў Рэспубліцы Беларусь, дзе ў жорсткі спосаб парушаюцца асноўныя прынцыпы дэмакратыі і канстытуцыйнага парадку, Беларускі саюз у Рэспубліцы Польшча пратэстуе супраць дзеянняў вярхоўных улад беларускай дзяржавы.

Пачынанні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і яго каманды кампраметуюць маладую беларускую дзяржаву ў вачах сусветнай грамадскай думкі і пагражаюць яе суверэнітэту. Беларускі саюз выказвае спадзяванне, што ў Рэспубліцы Беларусь будзе вернуты канстытуцыйны парадак і не будуць парушацца правы чалавека і грамадзяніна.

**Старшыня БС у РП**
**Яўген Вапа**

Беласток, 14.04.1995 г.

## ПОСТСАВЕЦКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Падзеі 11—12 красавіка г.г. у Менску прыцягнулі гэтым разам таксама ўвагу польскіх сродкаў масавай інфармацыі. У Еўропе, няхай сабе і ўсходняй, прэзідэнт дзяржавы паводзіць сябе як палкоўнік, які пасля путчу ўзначаліў уладу хунты. Хаця прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка з'яўляецца палкоўнікам савецкага КДБ з выразна акрэсленым менталітэтам калгасніка, але ўзначальвае ён жа дзяржаву, у якой улада ўстанаўліваецца па дэмакратычных прынцыпах. Але адкуль афіцэру КДБ ведаць, што такое дэмакратыя? З дзяцінства вучылі яго, што найбольш дасканалую мадэль дэмакратыі гарантуе ўлада КПСС і партыйная паліцыя — КДБ. І таму, калі дэпутаты ад апазіцыі запратэставалі супраць рашэнняў прэзідэнта, накіраваных на ліквідацыю роднай мовы, дзяржаўных сімвалаў і незалежнасці самой дзяржавы, Лукашэнка са сваёй камсамольскай камандай вырашылі падвяргнуць катаванням пратэстуючых. Зрабілі гэта паводле найлепшых афрыканскіх узораў. Народная міліцыя і лукашэнкаўскія спецслужбы жорстка расправіліся з дэпутатамі ад Беларускага народнага фронту, не зважаючы на іх дэпутацкі імунітэт. У 1917 годзе тое ж самае зрабілі бальшавікі з апошнім расейскім парламентам. Больш гучна, бо пры дапамозе танкаў, вырашыў праблему парламентарызму прэзідэнт Ельцын у кастрычніку 1993 г. Гэтым шляхам даўно ўжо пайшлі прэзідэнты „братніх рэспублік" — Узбекістана, Кіргізстана, Таджыкістана, Казахстана. Усе яны таксама, як Лукашэнка, былыя кадэбісты ці партыйная знаць. На тэрыторыі даўняга СССР, за выключэннем Прыбалтыкі, развіваецца арыгінальная палітычная сістэма — „постсавецкая дэмакратыя". Заступіла яна „дэмакратычны цэнтралізм", які ўзначальваў першы сакратар партыі. Цяпер яго ўлада называецца „прэзідэнцкай", а адпаведныя службы дбаюць пра тое, каб выпадковая асоба не заняла прэзідэнцкі пост. Самыя карысці плывуць ад гэтых змен. Ужо свет глядзіць і захапляецца, як на савецкай прасторы развіваецца ўсё ж такі „дэмакратыя". Маглі тады лукашэнкаўцы нават пазабіваць апазіцыйных дэпутатаў і ніхто спецыяльна гэтым не хваляваўся б — ні зманкуртызаванае беларускае грамадства, ні г.зв. заходнія палітыкі і аўтарытэты. Сказалі б яны ў сродках масавай інфармацыі больш-менш тое, што Адам Міхнік у „Gazecie Wyborczej" (nr 88): „Aleksander Łukaszenko — młody, bystry, z charyzmą, z siłą przebojową i osobliwą wizją demokracji. Jest to wizja demokracji, której bym nie akceptował. Jednak to Łukaszenko ma mandat pochodzący z wolnych wyborów. Jego oponenci mają poczucie słabości. (...) Nie jest łatwo rozdzielić jednoznacznie racji w tym dwuznacznym sporze".

Гэта абазначае, што можна біць. Ёсць у гэтым нейкая рацыя.

**Я.М.**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polska dzieli się na dwie części: czysty zachód i brudny wschód. Polska A to regiony, w których podejmuje się działania zmierzające do zmniejszenia ilości odpadów, myśli się o ochronie wody i atmosfery, dba o schludność ulic. Polska B jest krajem brudu, nieprzyjemnych odorów, chorób brudnych rąk, ponadnormatywnych emisji pyłów i gazów. Mieszkańcy tych terenów nie radzą sobie z coraz większą ilością śmieci i postępującą degradacją środowiska, które niekorzystnie wpływa na stan ich zdrowia i długość życia.*

*(Wprost, nr 14)*

* * *

*Чытачы „Голасу Радзімы” з далёкага і блізкага замежжа, для якіх наша газета з’яўляецца адзінай крыніцай інфармацыі пра жыццё ў Беларусі, апошнім часам настойліва просяць: пішыце больш пра сучасныя падзеі на Радзіме. Спадзяемся, што выступленне Прэзідэнта А. Лукашэнкі на сесіі Вярхоўнага Савета якое друкуем, дазволіць ім уявіць і зразумець тыя працэсы, якія адбываюцца сёння ў нашай дзяржаве.*

*(Голас Радзімы, н-р 13)*

Спачуваем чытачам „Голасу Радзімы”.

* * *

*Колькі здзекаў нацярпеліся за апошнія гады нашы дзяржаўныя сімвалы — сцяг, герб, мова. Сёння па Мінску вольна можа прайсці нехта пад расійскім або савецкім сцягам, а на беларускі дзяржаўныя міліцыянеры кідаюцца як быкі на чырвоны колер. 25 сакавіка міліцыянеры вырывалі з рук ад людзей дзяржаўныя сцягі ў дзень нацыянальнага свята.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 13)*

Няма такой дзяржавы ў свеце апрача Беларусі, у якой улада ганьбіць сімвалы гэтай дзяржаўнасці!

* * *

*Ostatnio w temacie walki o władzę w Rosji zaszły poważne zmiany. Gdy w grudniu 1994 r. zakamuflowani funkcjonariusze kremlowskich specsłużb położyli na śniegu ochroniarzy „Most-Banku” bliskiego merowi Moskwy Jurijowi Łużkowowi, wyglądało to na typowe „wyjasnienije otnoszenij” (wyjaśnienie stosunków) dwóch zwalczających się gangów. Kremlowskie służby pełnią funkcję „kryszy” dla rekinów kapitalizmu, którzy rozszerzając swoje wpływy likwidują konkurencję. Język mafii dotarł do polityki i pojęcia „krysza”, „wyjasnienije otnoszenij”, „razborka” są obecnie tak samo fundamentalne jak niedawno „pieriestrojka”, czy „nowoje myszlenije”. Gdy w Rosji kłócą się politycy, to, aby zrozumieć o co im chodzi, trzeba najpierw obejrzeć metki na workach z pieniędzmi, które za nimi stoją. Drobna pieriestrietka na ulicach i kanonada w Czeczenii to też wynik walki o forsę. Tyle, że na różnych poziomach. W 1991 r. nikomu nie znany Włodzimierz Żyrynowski obiecał przed wyborami prezydenckimi w Rosji prawie darmową wódę na każdym rogu ulicy, otrzymał sześć milionów głosów przeciwników kartkowego alkoholu. Hasło Żyrynowskiego Jelcyn zrealizował w praktyce. Dziesięć lat temu za pół litra najtańszej wódy można było kupić 20 bochenków chleba lub tyle samo ziemniaków, bądź dwa kilogramy kiełbasy. Teraz ruska wódka jest towarem w zasadzie darmowym. Za pół litra można nabyć 2 bochenki chleba, lub 2 kg ziemniaków, bądź 10 dkg lepszej kiełbasy. Tania wódka trzyma naród w ryzach, pozwala mu spokojnie przyglądać się transformacji „od pieriestrojki do pieriestrojki”.*

*(Nie, nr 14)*

* * *

*W związku z niezaproszeniem polskiej delegacji najwyższego szczebla na obchody 50 rocznicy zakończenia wojny proponuję, aby polskie armie Andersa i Berlinga uznać za wojsko najemne i wystawić aliantom rachunek za udział tych żołnierzy w zwycięstwie nad hitlerowskimi Niemcami.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 70)*

* * *

*80 kobiet z irackiej prowincji Chuzystan skazanych zostało w ub. roku na karę śmierci przez poderżnięcie gardła za rozmowę z mężczyznami, którzy nie byli ich mężami.*

*(Magazyn, nr 14)*

Трэба яшчэ дадаць, што ў Іране няма абортаў, засцерагальных сродкаў, разводаў і ўсялякай іншай д’ябальскай дурноты. У іхнім тэлебачанні паказваюць толькі набожных мулаў.

* * *

*Спадар прэзідэнт! Вы ганьбіце нашу мову і сімвалы, бо ў вас нічога свайго няма за душою. Нават сваёй жонкі пры Вас няма. Гэтая добрая жанчына, якая павінна быць першай дамай Беларусі, працуе ў калгасе. Гэта ж кур’ёз.*

*

*Нават мне, рускаму па нацыянальнасці, балюча глядзець як цар Лукашэнка і ягоная каманда імкнецца знішчыць свой народ.*

*

*За 8 месяцаў кіравання прэзідэнта Лукашэнкі мая пенсія павялічылася ў 9 разоў, а цана на хлеб — у 60 разоў, на малако — у 56 разоў, на кефір — у 78 разоў.*

З лістоў у рэдакцыю часопіса *Свабода (н-р 13).*

* * *

*Do liceum im. Stefana Batorego trafiają dzieci elity finansowej. Co roku kilka dziewcząt rozpoczyna karierę modelek. Dziewczęta z Batorego ubierają się w Mediolanie i Londynie, mają kosmetyczki w Paryżu, chłopcy jeżdżą najnowszymi modelami sportowych samochodów. Bez pieniędzy nie da się przeżyć, gdy chce się istnieć w towarzystwie — wyjaśnia jedna z uczennic. Na weekend trzeba mieć jakieś 2—3 mln, żeby się normalnie bawić. Modne w klasach są 20—30-osobowe wyjazdy w kilka samochodów (nowe modele jeepa dobrze widziane) do Hiszpanii, Wenecji, Amsterdamu. Bardzo ważny jest styl, w jakim wydaje się pieniądze — tłumaczy. Wypada od czasu do czasu zorganizować imprezę, o której się mówi. Niedawno jedna z dziewcząt wynajęła pałacyk Szustra i zrobiła urodziny na kilkaset osób. Inny kolega wynajął Hybrydy.*

*(Polityka, nr 14)*

Моладзь Варшаўкі, як бачым, не толькі вучыцца, але і нармальна цешыцца сваёй маладосцю. Неўзабаве прыйдзецца ім заняць кіраўнічыя пасады ў дзяржаўных фірмах, банках, тэлебачанні, адміністрацыі, браць вялікую адказнасць за гэтыя ўстановы. Некаторыя будуць гаварыць пра маральнасць, спачуваць беспрацоўным, жабракам і ўсялякім няўдачнікам. Словам, будуць рабіць тое, што робяць цяпер іх бацькі.

* * *

*Elegancki mężczyzna może mieć tu i ówdzie za dużo włosów, dama — nigdy,* — інфармуе

*(Gazeta Współczesna, nr 78)*

# З мінулага тыдня

**13 красавіка, нечакана, на 46 годзе жыцця памёр прэзідэнт Беластока АНДЖЭЙ ПЁТР ЛЮСА.** Управа горада 18 красавіка аб’явіла днём жалобы. У гэты дзень адбыліся пахавальныя ўрачыстасці, у якіх удзельнічалі прадстаўнікі цэнтральных, ваяводскіх і гарадскіх улад, а таксама тысячы жыхароў горада.

**Восем уплывовых дэпутатаў амерыканскага Кангрэса** далі заяву наконт вяртання яўрэйскай маёмасці ва Усходняй Еўропе і перасцераглі 13 краін, у тым ліку Польшчу, Венгрыю і Расію, што іх адносіны з ЗША пацерпяць, калі не прызнаюць яны кампенсацыі за яўрэйскую ўласнасць, якая была сканфіскавана камуністычнымі ўладамі. Каментуючы заяву, міністр маёмасных пераўтварэнняў **Веслаў Качмарэк** палічыў недапушчальным прымяненне нацыянальнага крытэрыя ў працэсе раздзяржаўлення. „Здавалася мне, што нацыянальныя крытэрыі перасталі дзейнічаць разам з заканчэннем II сусветнай вайны, але аказваецца, што не. А такую заяву, што калі не выканаем патрабаванняў, то не ўвойдзем у НАТО, лічу абсалютна непрыстойнай”.

**Міністр замежных спраў Расеі Андрэй Козыраў** не выключыў магчымасці прымянення вайсковай сілы ў абарону расейскага насельніцтва, якая пражывае за межамі Расейскай Федэрацыі. Сцвердзіў ён, што сітуацыя расейскага насельніцтва ў многіх краінах СНД далей застаецца нездавальняючай і толькі ў 1994 г. у Расею перасялілася 254,5 тысячы чалавек.

**Партыйныя эмблемы ПЗПР, СЛД, ПСЛ, УП і УВ** былі зняты з сімвалічнай Магілы Гасподняй у касцёле св. Брыгіды ў Гданьску. Супраць змяшчэння гэтых абрэвіятур побач свастык, сярпоў з молатамі і эмблемаў НСДАП, СС, СА, НКВД, КГБ, УБ і СБ пратэставалі дзеячы левых палітычных груповак. Па загаду касцельных улад названыя абрэвіятуры для змякчэння палітычнага значэння былі зняты.

**У Гданьску** ў выніку выбуху газу быў знішчаны дванаццаціпавярховы жылы будынак. Пад разваліначі загінула дваццаць асоб. Мяркуецца, што прычынай выбуху было злачыннае дзеянне чалавека.

**Міністр працы Лешэк Мілер** паінфармаваў, што рашэннем Рады Міністраў дзень **8 мая** (панядзелак) аб’яўляецца **выхадным днём**, паколькі ў гэты дзень адбудуцца ўрачыстасці для ўшанавання 50 гадавіны заканчэння II сусветнай вайны. Узамен рабочым днём будзе субота — 13 мая.

**Беластачанін Ян Шафранец** паўторна прызначаны прэзідэнтам РП у састаў Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання тэрмінам да 18 красавіка 1999 г.

**III Кірмаш харчовых прадуктаў**, арганізаваны Цэнтрам кірмашоў і прамоцыі ўсходняга рынку, адбыўся ў Беластоку. Прыняло ў ім удзел каля 60 фірм з усёй Польшчы. На кірмашы прысутнічала беларуская дэлегацыя з трыццаці чалавек, а ў іх ліку — прадстаўнікі Міністэрства фінансаў РБ, Прамыслова-гандлёвай палаты, дырэктары прадпрыемстваў і бізнесмены.

Сустрэча нацыянальных меншасцей, якія жывуць у Нямеччыне, Украіне, Літве, Беларусі і Польшчы, праходзіць у канцы красавіка ў тэлерадыёцэнтры ў **Голдапе.**

**Пошта ў Гайнаўцы** прапануе жыхарам горада новую паслугу. Кліент можа па тэлефоне даручыць паставіць пад пададзены адрас у горадзе любую пасылку, а пісьманосец справіцца з гэтым заказам на працягу двух гадзін. Апрача лістоў і пачак паштальёны могуць пастаўляць таксама кветкі. Такую паслугу сваім кліентам прапануюць таксама паштовыя аддзяленні ў Сямяцічах, Моньках і Бельску-Падляшскім.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Пра Івана Краскоўскага — невядомага беларускага палітыка з Дубіч-Царкоўных.
- Ганна Кандрацюк наведала вёску Грабавец.
- Мікола Ваўранюк прыглядаўся працы мытнікаў.
- Апошнія з магікан з Меляшкоў.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Занепакоенасць спікера

Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб выказаў занепакоенасць у сувязі з супрацьстаяннем у парламенце. Выступіў ён з гэтай заявай пасля таго, як праваахоўныя органы збілі і гвалтам вытурылі з будынка парламента групу дэпутатаў апазіцыйнага БНФ. Мячэслаў Грыб сказаў, што яшчэ ніколі Беларусь не была так блізка, як цяпер, грамадзянскай вайны. Іншы прадстаўнік кіраўніцтва Вярхоўнага Савета Барыс Савіцкі заклікаў дэпутатаў разгледзець пытанне аб адстаўцы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які, на яго думку, парушыў канстытуцыю, даючы загад ужыць сілу супраць БНФ. Між тым пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу ў сувязі з інцыдэнтам у парламенце.

## Заява пасольства ЗША

Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі распаўсюдзіла заяву ў сувязі з падзеямі ў Доме ўрада ўначы з 11 на 12 красавіка. Пасольства з велізарнай заклапочанасцю наглядае развіццё палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Асаблівую трывогу выклікалі паведамленні аб ужыванні сілы ў адносінах да членаў Вярхоўнага Савета ў зале пасяджэнняў. ЗША заклікаюць да вырашэння палітычных рознагалоссяў мірным і дэмакратычным шляхам, трымаючыся правоў чалавека ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі, якія падпісала Беларусь.

## Завяршылі па-людску

Пасля інцыдэнту з апазіцыйнымі парламентарыямі дэпутаты ў далейшым працягвалі працу апошняй у гэтым скліканні сесіі. У апошні дзень — 13 красавіка — ратыфікавалі яны беларуска-расейскія пагадненні, зацвердзілі прэзідэнцкія пытанні для рэферэндуму і пастанавілі аднавіць святкаванне гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі. Ужо вечарам папярэдняга дня дэпутатам паведамілі, што плануецца фатаграфаванне на памяць з прэзідэнтам і што адбудзецца мерапрыемства, каб „па-людску раз’ехацца”. Заканадаўчыя вынікі апошняга дня сесіі пакрытыкаваў Станіслаў Шушкевіч, які сказаў дэпутатам: „Думайце пра адказнасць перад дзяржавай, а не пра банкет!” Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пасаромеў Шушкевіча за яго словы, зазначыўшы, што банкет арганізуе ён сам, бо як прэзідэнт мае на гэта права, і вып’юць дэпутаты не па сто, а па дзвесце грамаў за дзяржаўны кошт. Парламенцкая большасць закончыла дзейнасць Вярхоўнага Савета гэтага склікання банкетам, які некаторыя каментатары назвалі пірам падчас чумы.

Дэпутаты, аднак, свае паўнамоцтвы захоўваюць і могуць яны збірацца для вырашэння важных пытанняў да часу абрання новага парламента.

## Адмова Ніла Гілевіча

Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Ніл Гілевіч адмовіўся ўдзельнічаць у апошнім дні сесіі і ў дадзенай ім заяве напісаў: „Учора ў будынку Дома ўрада панавала атмасфера паліцэйска-жандарскай шызафрэніі і шпіёнаманіі. Зноў трапіць у гэтую атмасферу, выбачайце, агідна. Надзея, як вядома, памірае апошняй. Пачуўшы, што на вячэрнім пасяджэнні будзе выступаць прэзідэнт, я падумаў: напэўна зразумеў, што робіць ганебную памылку і хоча даць адбой. Усё яшчэ цеплілася надзея. На жаль, у зале працягвала гучаць усё тая ж песня з таго ж самага недарэчнага абсурднага спектакля. Працягвалася тое ж самае здзеклівае прыніжэнне чалавечай і грамадзянскай годнасці дэпутатаў, апраўданне гвалту над імі. Кажуць, прайсці праз прыніжэнне і здзек таксама бывае карысна. Так, напэўна. Але ва ўсякім цярпенні ёсць мяжа, за якою душы чалавечай робіцца страшна, няўтульна і невыносна пагана”.

## Транзітны збор

Кабінет Міністраў плануе ўвесці транзітны збор для ўладальнікаў легкавых аўтамабіляў, якія перасякаюць тэрыторыю Беларусі. Згодна з падлікамі, гэта можа папоўніць рэспубліканскі бюджэт на 700 млрд. руб. Такое рашэнне — адно з першых па выкарыстанню выгаднага геаграфічнага становішча рэспублікі.

## Ушанаванне барда

Вечар памяці барда Алеся Гілевіча, які загінуў трагічна 21 студзеня 1994 г., прайшоў у Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Менску. Гэта быў не проста канцэрт запрошаных артыстаў. З дапамогай слайдаў і відэафільмаў гледачы маглі ўбачыць і паслухаць самога барда. Дзяліліся ўспамінамі сябры і калегі па творчасці, з якімі Алесь Гілевіч працаваў у рок-гуртах, клубах і тэатры.

## Жэтоны ў Віцебску

З пачаткам красавіка ў Віцебску адменена тэлефонны камунізм, калі з вулічных апаратаў можна было званіць задарма. Гарадскому бюджэту не пад сілу аддаваць сувязістам па 10 млн. руб. штомесячна. Заканчваецца перараблка манетапрыёмных вулічных тэлефонаў на жэтоны, цана якіх будзе 450 руб.

# Што варта ў Гарадку?

Адкуль я першы раз у дарослым жыцці паявілася ў Гарадку (было гэта, бадай, у 1977 годзе), заўсёды свае першыя крокі накіроўвала да „кніжнага доміка" — у маленькую кнігарню, што насупраць Гміннага асяродка культуры. Нават калі ў мяне не было шмат часу, я туды забягала, нецярпліва думаючы перад дзвярыма, што ж такое сёння трапіць у мае рукі, якая прыемная неспадзяванка мяне тут чакае, якая сустрэча. А заўсёды з гэтай кнігарні я выходзіла з нечым добрым, пакідаючы час-часом вялікую частку сваёй студэнцкай стыпендыі. Здабывала я тут кнігі, назарэз партэбныя філолагу, знайсці якіх не маглі мы ў той час нідзе, зборнікі вершаў, пераклады...

Ад нейкага, „капіталістычнага" часу, тут шмат змянілася, і не пакідаю гэты домік з вялікай радасцю, і не з такім хваляваннем яго наведваю. Вось і сёння, у адзін сонечны сакавіцкі дзень, заходжу ў кнігарню Уладзіміра Павільча. Кніжак жменька, ды такіх, якія я магу купіць усюды — кожны пазнае іх здалёк па вокладках на вітрынах кнігарняў, у шапіках, пераносных прылаўках-крамках.

— Тут у вас, бачу, ужо ўсё ёсць? — кажу спадару Уладзіміру.

— Рух усё меншы „ў кнігах". Людзі забыліся літар, ці што? Нават на кілбасу косяцца адным вокам, бо другім страшна глядзець, бо цэны, цэны!.. Людзі грошай, на жаль, не маюць. Вось наша фабрыка стаіць. Людзі не маюць працы, то і грошай у іх не будзе. І я таксама прадаю, што магу. І кніжачкі, і касметыку, і цацкі, і парашкі... Усё, што даецца. Канкурэнцыя ў Гарадку па іншых таварах ёсць, але не па кніжках. Тыя людзі, што калісь чыталі, куплялі кніжкі, прыйдуць, пазаглядаюць, пастогнуць... Часам і на цану не глядзяць. Вядома, заказваю і кніжкі, але не столькі, як раней. А калі кніжка ляжыць, траціць сваю вартасць. А і мне трэба падаткі плаціць, рабіць абарот, а няма за што новы тавар браць. За само ацяпленне доміка — мільён у месяц. Будынак быццам ужо і мой, але Гмінная рада далажыла, цяпер плаціць мне трэба амаль на сто працэнтаў больш: было 35 тысяч за квадратны метр, сёння 66, бо ім жа таксама трэба грошы для гміны, не глядзяць, які тавар прадае чалавек і ці можа ён выжыць. Плач не паможа — плаці! Ну і смяяцца няма чаго. Прыкра гаманіць пра такія справы, бо было б прыемна чым небудзь пахваліцца. А цяпер нават машыны не маю, адзін дзядзька з Міхалова разбіў.

— Вы яе не застрахавалі?

— Але, у славутым былым манапалісце ПЗУ ад больш трыццаці гадоў. Меў тры маторы, другую аўтамашыну на працягу амаль сарака гадоў, як працую ў Гарадку. І ўсё быў кліентам ПЗУ. І вось, ведаеце, як абышліся са сваім кліентам? Нават не магу да іх дазваніцца, даведацца, як справы ў сапраўднасці маюцца. Справу павінны аформіць на працягу трыццаці дзён. Так стаіць у „Дзённіку ўстаў", разам з усімі параграфамі. Ужо прайшло 60 дзён. Ведаеце, у чым справа? П'яны чалавек з Міхалова, які грымнуў мой старэчу-аўтамабіль, меў сваю машыну застрахаваную ў Нямеччыне, з „зялёнай картай". І таму ПЗУ перадало справу кампенсавання страхавой фірме „Варта", з якой у яго ёсць дамова. Чалавека маюць, машыну тую маюць, толькі тае „зялёнае карты" няма ў іх, факсы ўсё шлюць у Нямеччыну. А мне асталося чакаць. Машына мне патрэбная кожны дзень, мне ж неабходна вазіць тавар. П'яны дзядзька ехаў тады без дакументаў. Яго аўто ў Беластоку праверылі, яго самога выпусцілі, былі мы толькі вызваны на „калегіюм", я як сведак, а паколькі ён сам прызнаўся, то сказалі мне, што я як сведак ужо ім непатрэбны. Параілі мне: судзіся з ім. То мне яшчэ прыйдзецца выдаваць грошы на адвакатаў, на суды, а мая машына дзякуючы гэтаму далей будзе стаяць, я далей чакаць! Слаў я лісты ў ПЗУ, што мне цяпер рабіць, да каго звярнуцца, бо ж я з імі падпісаў дамову, то кажуць, што гэта справа „Варты". Пратакол, праўда, саставілі, спісалі якія шкоды ўчынены, камісія ўзяла за гэта 800 тысяч. А мая машына старэнькая, нават страхоўкі не хацелі былі на яе вялікае. А „бляхар" возьме 15—20 мільёнаў, не ўлічваючы матэрыялаў. Вось спісак шкодаў, што камісія пералічыла. Калі „Варта" нічога не можа зрабіць, хай справу верне ў ПЗУ. Кожны дзень мне шмат каштуе. А ніхто з табой не хоча размаўляць, адзін на аднаго толькі паказваюць, не выдушыць з іх нават сумленнай інфармацыі і парады. У нас у Гарадку вельмі ж тую „Варту" хваляць, кажуць, што калі хутка не змогуць ліквідаваць шкоды, то сваім кліентам у выпадку неабходнасці прапануюць заменную машыну, маюць гарантыйны фонд. Але ж я — не іхні кліент, а ПЗУ! А „зялёная карта" не мая, а таго дзядзькі, што ў п'яным відзе ўрэзаўся ў тыл маёй машыны... І думай ты, і працуй спакойна, каб варта было! Думаю, што не толькі ў мяне такія праблемы ў сёняшні час, калі грошы браць хоча кожны, але разлічвацца з контрагентамі не мае вялікае ахвоты.

**Міра Лукша**
**фота аўтара**



*У кнігарні прадаем усё.*

# ЖЫЦЬ БЯСПЕЧНЕЙ

На XIII сесіі Гарадской рады Бельска-Падляшскага, якая праходзіла 12 красавіка, дамінуючым быў даклад раённага каменданта паліцыі, надкамісара МІХАЛА КАРПЮКА, пра парадак і грамадскую бяспеку ў горадзе. У мінулым годзе функцыянеры Раённай камендатуры паліцыі ў Бельску зафіксавалі 963 злачынствы (на 49 больш, чымсьці ў 1993 г.), прычым у 651 выпадку былі знойдзены віноўнікі. Гэта абазначае, што паспехам закончыліся 67,1% спраў (на 0,4% больш, чымсьці год раней), якімі займалася бельская паліцыя.

— *Найбольш жорсткае злачынства ў мінулым годзе*, — сказаў камендант, — *гэта забойства пад восень самотнай бабулькі. Забойцы па сёння застаюцца на свабодзе.*

У мінулым годзе былі ўкрадзены пяць аўтамашын, найчасцей аднак зладзеі квапяцца на ровары, кашалькі з грашыма, дробныя прадметы ў крамах і на базары. Паліцыя налічыла 16 узломаў у кватэры, аднрача гэтага часта здараліся ўзломы ў крамы, падвалы, машыны, адкуль выцягваліся радыёпрыёмнікі, магнітафоны, запасныя колы ды іншыя прылады. З 17 у 1993 да 31 у 1994 годзе ўзрасла колькасць разбояў, спалучаных з вымаганнем ад ахвяр грошай. Найчасцей ахвярамі падалі вучні малодшых класаў сярэдніх школ.

— *Дэмаралізацыя моладзі і раптоўны рост учыненых імі злачынстваў, гэта вельмі трывожная з'ява*, — гаварыў камісар Карпюк. — *У мінулым годзе 68 непаўналетніх учыніла 106 злачынстваў, а гэта на 47 больш, чымсьці ў папярэднім годзе. У нашых картатэках 164 маладыя асобы, якім, на нашу думку, пагражае дэмаралізацыя. З гэтай групы 81 асоба ўжо дапусцілася праступка.*

Спрыяюць, паводле каменданта, росту злачыннасці такія фактары, як алкагалізм, наркаманія, высокае беспрацоўе, інтэнсіўны і слаба кантраляваны рух чужаземцаў.

Асобнай катэгорыяй з'яўляюцца гаспадарчыя злачынствы, якія выкрываюцца ў марудным, працаёмкім працэсе. Гэта новая з'ява — прынамсі ў такім маштабе — у нашым грамадстве, не да канца яшчэ пазнаная. У мінулым годзе страты ў выніку крымінальных і гаспадарчых злачынстваў, на тэрыторыі падпарадкаванай Бельскай камендатуры паліцыі былі роўныя 7 мільярдам 86 мільёнам старых злотаў. Вернута толькі 1 мільярд 410 мільёнаў.

Падсумоўваючы, надкамісар Міхал Карпюк сказаў, што, нягледзячы на шэраг адмоўных з'яваў і працэсаў, бачыць ён прычыны да аптымізму. Перш за ўсё тое, што цяперашні ўрад бяспеку грамадзян лічыць сваім прыярытэтным заданнем. Вырашэнні на цэнтральным узроўні, такія як планаванае ўхваленне новага крымінальнага кодэксу, абнадзейваюць, аднак на месцы патрэбнае цеснае супрацоўніцтва самаўрадавых улад з паліцыяй. Гэта дапаможа паліцыі звярнуць увагу на найбольш істотныя праблемы і ўмацуе ў грамадзян пачуццё бяспекі.

Найбольш канкрэтнае рашэнне XIII сесіі Гарадской рады Бельска — гэта павышэнне з 1 мая цаны білетаў на гарадскі транспарт на 50 грошаў. Льготны білет, а таксама на перавоз багажу ці сабакі — 25 грошаў. Калі білет набываць у шафёра, тады ён даражэйшы, адпаведна: 60 і 30 грошаў.

Калі гаварыць пра вызначэнне грамадска-гаспадарчай палітыкі горада да 2000 года, то адзіны канкрэт такі: чатырох радных апазіцыйнай „Jedność" пакрыўдзіліся, што не тыя вуліцы ў першай чарзе будуць рабіцца і пакінулі залу. Радны Міраслаў Талвінскі прабаваў гэта апраўдаць антыпольскімі акцэнтамі, якія паяўляюцца ў горадзе (мусіць і ва ўладах таксама). Але ў гэтай патрыятычнай рыторыцы хоць адзін канкрэт знайсці было немагчыма.

**М.В.**

# „Ніва" ў Сухаволі

— O! Ma Pan nawet „Niwę", — узрадавалася я, пабачыўшы наш тыднёвік у кіёску ў Сухаволі.

Заўсёды цікавіла мяне, ці ў гэтай каталіцкай мясціне знойдзецца хаця б адзін чытач нашай газеты.

— Ale nasi to tej „Niwy" nie czytają, — горда заявіў кіяскёр.

— То навошта яна тут?

— Czasem kupiją ją ci, — таямніча гаварыў мой субяседнік, — no, ruskie, wie pani! — дадаў сцішаным голасам.

Ад яго я даведалася, што два экземпляры „Нівы" пастаянна ён адсылае назад.

— Czasem ktoś od Suwałk kupi, — дадаў дзядзька з-за прылаўка.

І здавалася б, што нічога тут незвычайнага. Але заўсёды, калі прыязджаю ў Сухаволю, чую дзе-нідзе беларускую мову. Карыстаюцца ёю пераважна сяляне з навакольных вёсак. Пры нагодзе ўспамінаю здарэнне з мінулага. Мой сябра, родам з цэнтральнай Польшчы, наведаў аднойчы Сухаволю і вынес адсюль перакананне, што жывуць там беларусы. Каб выклікаць сардэчныя ўспаміны ў гаспадароў, у якіх ён жыў, вырашыў выслаць ім паштоўку з прывітаннямі на беларускай мове, а мяне папрасіў напісаць тэкст. І ніяк не мог ён потым зразумець, што людзі могуць гэтую высакародную задуму ўспрыняць варожа.

Я таксама не раз хацела пагаварыць у Сухаволі па-беларуску. Але мае субяседнікі перш за ўсё былі здзіўлены, разгублены і чым хутчэй пачыналі гаварыць па-польску, быццам згадалі, што дапусціліся яны нейкага злачынства. А сярод моладзі нігілізм разросся да такой ступені, што беларуская мова ўспрымаецца імі як нешта вульгарнае, хамскае, грэшнае.

На штодзень усе жыхары Сухаволі перакананы, што жывуць у цэнтры Еўропы. Тут, дарэчы, знаходзіцца геаграфічная сярэдзіна нашага кантынента.

**Ганна Кандрацюк**

# Аблажыліся смеццем

Ранняй вясной, калі ўжо снег зыдзе, а яшчэ няма зелені, у вочы кідаецца перш за ўсё смецце. Потым яно знікае ў буйных травах і кустах. У пачатку красавіка г.г. зрабіў я прагулку на веласіпедзе па белавежскім наваколлі. Перад уездам у вёску Падаляны I убачыў я кучы ўсялякага смецця, а ў іх — нават корпус халадзільніка. Вось табе і падалянцы месца на звалку прыдумалі! Не трэба далёка ехаць, хопіць толькі затрымацца на дарозе і скінуць смецце ў канаву! А што агідна побач яго праязджаць, гэта хіба нікога і не хвалюе. Паявіцца зелень і бруд прыкрые.

Другую, меншую дзікую звалку я прыкмеціў з другога боку вёскі ў вярбовым хмызняку. Магчыма, што такіх месц ёсць больш. Калі падалянцам прыемна аблажыцца з усіх бакоў смеццем, няхай так і будзе. Але што падумаюць пра іх турысты? Праз Падаляны ж вядзе адзін з турыстычных шляхоў! Усё ж такі варта пад звалку адвесці адно, больш сакрэтнае месца, не на агляд кожнаму праезджаму.

**Пётр Байко**

# Дзіравая Застава

Вёска Застава, што ў гміне Белавежа, ляжыць на шляху турыстычных прагулак ва ўрочышча Старая Белавежа. Летам турыстаў возяць туды на брычках, узімку — на санях. Здараецца і так, што турысты дабіраюцца на месца на сваіх аўтамабілях.

У апошні час асфальт на дарозе ў самой вёсцы палопаў, а ў шматлікіх месцах парабіліся прабоіны. Ранейшыя спробы латаць яго не далі спадзяванага выніку. Неабходна палажыць новы асфальт. Толькі ці гміна знойдзе на гэта грошы?

**Пётр Байко**

# „НАЦЫЯНАЛЬАЯ АДУКАЦЫЯ: гісторыя, сучаснасць, перспектывы"

Так азагалоўлена была навуковая канферэнцыя арганізаваная ў Берасці ў днях 3—4 красавіка 1995 г. Берасцейскім аддзелам Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" і Упраўленнем навукі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. З дакладамі выступіла каля 90 прадстаўнікоў навукі з 10 краін свету. Арганізатары запрасілі 164 дакладчыкаў. Галоўны арганізатар канферэнцыі Сяргей Яцкевіч з Берасцейскага педагагічнага інстытута мусіў немала напрацавацца, каб падрыхтаваць такое мерапрыемства пры існуючых умовах у Рэспубліцы Беларусь. Згодна з усходняй традыцыяй, пленарнае пасяджэнне пачалося выступленнем мясцовага дзіцячага фальклорнага калектыву песні і танца, што вельмі спадабалася гасцям з заходняй Еўропы. Вітаючы ўдзельнікаў канферэнцыі, віцэ-мэр Берасця расказаў пра эканамічныя складанасці дзяржавы, а таксама пра дасягненні ўлад горада у развіцці „народнай культуры". Як вядома, мовай улад Беларусі з'яўляецца „общепонятный язык". Традыцыю гэтую не парушыў таксама і віцэ-мэр горада. Прамаўлялі таксама прадстаўнікі консульстваў Польшчы і Ізраіля, ды іншыя знакамітыя госці. У мерытарычнай частцы канферэнцыі асаблівае зацікаўленне выклікала выступленне прафесара Кембрыджскага універсітэта Вітаўта Туласэвіча, паляка па паходжанню, які пачаў гаварыць на беларускай мове, пасля перайшоў на расейскую і закончыў на англійскай. Еўрапейскія нацыі падзяліў прафесар на „дзяржаўныя" і „спозненыя". Гэтыя апошнія нацыянальную адукацыю пачалі праводзіць толькі пры канцы XIX або на пачатку XX стагоддзяў. Раней не мелі яны такіх магчымасцей з увагі на адсутнасць уласнай дзяржаўнасці. Паводле вучонага з Кембрыджа большасць краін заходняй Еўропы нацыянальную адукацыю пачынала праводзіць недзе ў XVI стагоддзі, калі разваліўся лацінскі ўніверсалізм. Аднак народы ўсходняй Еўропы хутчэй стварылі агульнанацыянальную літаратурную мову. Студэнты Кембрыджскага універсітэта, — заўважыў прафесар — амаль усе гавораць на дыялектах англійскай мовы. Падобная сітуацыя існуе ў Нямеччыне, Францыі, Іспаніі. Сёння нават назірасцца там зварот да рэгіянальнай мовы, культуры, а людзі пачынаюць ганарыцца тым, што яны кастылійцы, брэтонцы, баварцы. Правінцыяльная мова як бы з'яўляецца прыкметай тоесасці, адрозніваё ад афрыканцаў, азіятаў, ўсходнеєўрапейцаў, якія карыстаюцца літаратурна-тэлевізійнай мовай. Ёсць аднак пэўныя складанасці ў вывучанні роднай мовы нават выразна акрэсленых народаў. Шатландцы ці уэльсцы, хаця маюць усе ўмовы адукацыі на роднай мове, зрэдку карыстаюцца гэтым правам. Цяжка потым знайсці ім працу ў Англіі.

Англія гэтая такая заходняя Расія — заўважыў хтосьці з залы.

Пра нацыянальную беларускую школу ў XXI стагоддзі гаварыў Мікалай Латыш з Нацыянальнага інстытута адукацыі ў Менску. Рабіў ён уражанне лектара КПСС падчас канферэнцыі абласнога камітэта партыі. Пра перспектывы навучання роднай мовы сталічны вучоны муж гаварыў нешта, карыстаючыся замежнай мовай. Нсйкае вяр'яцтва!

Бруно Бартц з Дуйсбургскага універсітэта ў Нямеччыне гаварыў, што ў яго краіне пра кштальт адукацыі вырашае рынак працы. Цяпер 57% немцаў працуе ў сферы абслугоўвання і гэтаму працэсу павінна служыць адукацыя. Да 2000 года 39% працоўных у Нямеччыне будуць мець вышэйшую адукацыю. У гэтай краіне, паводле Бартца, сёння налічваецца каля 25 тысяч розных заняткаў і 4 049 прафесій.

Найцікавейшы — паводле маіх ацэнак — даклад меў гаспадар канферэнцыі Сяргей Яцкевіч пра навучанне нацыянальных меншасцей у Беларусі. У дваццатых і трыццатых гадах існавала на тэрыторыі Савецкай Беларусі 11 нямецкіх школ, 200 польскіх, 200 яўрэйскіх, 10 украінскіх, 21 руская. У 1938 годзе ЦК КПСС загадаў вывучаць расейскую мову на ўсёй тэрыторыі СССР. У той час абазначала гэта ліквідацыю навучання роднай мовы ў карысць імперскай. Хаця ў 1939 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі саветы стварылі нацыянальныя школы для беларусаў, палякаў і яўрэяў, але дырэктарамі гэтых школ назначылі людзей, якія нічога на гэтых мовах не разумелі.

Паводле Алега Трусава, манкуртызацыя беларускага грамадства пачалася пры Хрушчове, калі I сакратар ЦК КПСС вызначыў Беларусь на палігон для правядзення дэнацыяналізацыйных эксперыментаў. Галоўным сатрапам Беларусі назначаны тады быў Пётр Машэраў. На пачатак былі знішчаны ўсе помнікі нацыянальнай гісторыі, архітэктуры, старажытныя цэрквы. Паралельна вялася русіфікацыя адукацыйнай сістэмы і навуковых установ. На працягу аднаго пакалення, паводле Трусава, беларусы пераўтвaрыліся ў савецкі народ. Эксперымент прайшоў паспяхова.

Шмат цікавых асоб можна было сустрэць падчас гэтай канферэнцыі. З Менска прыехала група перакладчыкаў падручнікаў па матэматыцы на беларускую мову. Проста неверагодна з якімі знявагамі спатыкаліся гэтыя людзі ў сваёй айчыне за тое, што хацелі служыць ёй сваім інтэлектам. Нават у афіцыйных выступленнях беларускія інтэлектуалы параўноўвалі палітычную сітуацыю ў Беларусі да кашмарнага сну. Відаць было, што яны найбольш разумеюць і найбольш балюча ўспрымаюць панаванне лукашэнкаўскай хеўры. Як сказаў адзін з менскіх удзельнікаў канферэнцыі, „толькі на хвілінку заглянула сонца надзеі ў нашы вaконцы, а зноў чорная ноч, ноч здрады, набліжаецца да Беларусі". Гэта сапраўды ўжо словы глыбокай роспачы.

**Яўген Мірановіч**



*БАРЫС РУСКО*

## Няпэўнасць

Адыходзячы ад дзвярэй
не ведаю, ці вярнуся,
каб іх адчыніць
і злічыць белыя стужкі хвілін
па той бок,
і слухаць нараканні,
без якіх дом пусты,
і пад пярынай ночы цешыцца
непаўторнасцю сноў,
і бачыць сябе самога
без супастаўлення з іншымі
ці з іншым.
З дарогі часам,
не па ўласнай віне,
няма звароту.

## Алея

Людзі гуляюць па алеях
адзінокія,
парамі,
грамадою.
Алеі высыпаны
жвірам,
пяском,
лісцем.
Адзінокія нічога не бачаць,
утыкающца ў пустую раму карціны,
яны на грані жыцця.
Пары ўвайшлі ў сябе
ў нацельных сарочках,
у полымі надзеі.
У грамадзе прыкмячаюць
крывізну дрэў, і пах поту,
і ўхабістасць дарогі.
Па алеях гуляе час,
замятаючы сляды людской
хады.

## За шчылінаю

За шчылінаю, між пальцамі,
на завароце дня,
імгла мяккая,
і перад крыламі падзення
астуджанае паветра,
і з-па-над грані ночы
цень далягляду.
За шчылінаю, між пальцамі,
на ложы развітання,
нямое кліканне,
і маўклівасць малення
прад нячулай іконай,
і спавядальнікаў спавяданне
ля белага полымя.
За шчылінаю, між пальцамі,
спеў скрыпкі —
аж да плачу смычка,
і сумленне скрытае
на рынычнай плошчы,
і горкі смак адзіноцтва
ў гушчары вуліц.

## Пасланне

Ператрываў — дзень за табою,
яшчэ адзін дзень, абліты потам,
з кволай надзеяй:
за позаў сцяною —
белы прастор.
Пі чашу мройную
за згаслы дзень,
хай пунсавеюць вусны
ў грымасе
і локці выпрамяцца,
і чадра з думак ссунецца,
бо вязнуць у сваіх вулках.
Апакаліпсіса бяссэнснасць,
як лоўля паху бэзавага
на крызе голай.
Маўчыш, хоць нешта падае.
Не!
То пад ношай рахманага сонца
асядае імгла.

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992 - 01 - 19.**

На семінары *Белавежы* (ва універсітэцкім пакоі Чыквіна). Дыскусія над *Вірамі* (Валкавыцкі, вядома, не прыйшоў). Чыквін заўзята хваліў, прыдаючы гэтай кніжцы ажно ўніверсальныя аспекты. На першы погляд выдалася мне тое дзіўным, ведаючы пра кісласць ягонага характару... Я забыўся, што ён — рэкамендант і рэдактар *Віроў*.

Быў на семінары і Расінскі з *Кур'ера паранняга*. Аб'ектыўна дацэньвае Валкавыцкага як аніматара літаратурнага руху. Яновіч у такой ролі наламаў бы дроў, сказаў. (...)

**1992 - 01 - 20.**

Узяўся рыхтаваць да эвентуальнага друку тое, што Ясь Чыквін нояк выбраў з папераў нябожчыка Юркі Геніюша. Цяжкая работа. Нашым аўтарам наогул бракуе літаратурнай культуры. Поўна ў ім моўнага смецця, варварызмаў! Яны мала чытаюць; банальныя.

**1992 - 01 - 26.**

Другі Кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Нешта зноў закончылася ў маім жыцці; важнае двухгоддзе, не аднаму мне, але і ў нацыянальных маштабах (першая бел. партыя ў пасляваенне).

Сапраўды не пашкадаваў для мяне Бог інтуіцыі адсунуцца ў бок дакладна ў сённяшні момант! Хваля вартая жыцця беларускага дзеяча — я амаль не прымаў удзелу ў бегу Кангрэсу; усё само бруілася, быццам тая рэчка, на якую пазіраеш з берага.

(Лёнік заўважыў: прапачаткі Аб'яднання былі каля тых агнішчаў студэнцкіх рэйдаў у васьмідзесятыя гады).

Арганізацыі, каб яна жыла і віравала, патрэбны не столькі напрактыкаванасць, колькі акурат радаснасць ствараць яе ды быць у ёй. І гэта, на маё шчаслівае адчуванне, наглядаў я на Кангрэсе. Паўсотня дзяўчат і хлопцаў на ім яшчэ інстынктыўна, як мне здаецца, улоўлівала ўсю ненатуральнасць мець сваім лідэрам чалавека ў перадпенсійным узросце... Абраны на маё месца равесны ўсім ім Алег Латышонак павінен прыдаць Аб'яднанню свежай дынамікі (атрымаў 100% галасоў і без аніякай контркандыдатуры!).

Неяк ад паўгоду выдыхнуўся я. Прапаў зусім у мяне ахвотнік дзейнічаць: ездзіць, агітаваць, арганізаваць. Адно ў сферы думкі пакуль што не пакідае жаданне нешта рабіць. Працэс выгарання? Захутка жыў?.. (...)

**1992 - 02 - 03.**

Дэпутат Шут, выступаючы на Кангрэсе, сказаў, здаецца, капітальнае: значэнне Беларускага дэмакратычнага аб'яднання перш за ўсё ў тым, што яно наогул ёсць, г.зн. не столькі ў пажаданай дзейнасці, колькі ў самім яго існаванні, няхай сабе і аморфным.

Маладому пакаленню ідзе незайздросны час. Як яно зрэагуе на яго? Па ўсім відаць, што апатыяй. Ратунак яму ў выездах да амерыканскіх беларусаў застаецца нязначным, інцыдэнтальным. (...)

**1992 - 02 - 09.**

(...) — У *Gazecie Wspólcz.* перадрукавалі з парыжскай *Kultury* тэкст *Niełatwa ziemia*, так сказаць, археалагічны. Аўтар яго раптам выкапаў на свет белы дваццацігадовай даўнасці беластоцкую гісторыю, элементам якое была тады *справа Яновіча*. Каго гэта цяпер цікавіць?! — акрамя саміх герояў.

**1992 - 03 - 06.**

Меў — даўно абяцаны БАСу — выклад пра пачаткі беларускай літаратуры (на нейкім іх курсе). Ну, які з мяне гісторык? Параскаваць я ўмею і люблю, але не болей. Ім гэтага, пэўна, даволі. Адзінае, што неяк кампетэнтна мог бы я весці, дык нейкі літаратурны семінар. Ды каму ён тут патрэбны... (...).

**1992 - 03 - 15.**

Удалося мне жыва павесці семінар *Белавежы*, прысвечаны творчасці Яна Чыквіна (з нагоды выхаду яго *Кругавой чары*). Хоць і цяжкім выпаў учарашні дзень: увечары — у гасціне ў Сельвесюкоў у Махнатым, якія прымалі ў сваёй хатцы мітрапаліта Мікалая з Таронта (гл.: *Голас Радзімы* ад 12-га); уночы — у супрасльскім доме-дачы Латышонкаў на сустрэчы з заснавальнікамі Зьвязу беларускай моладзі (вазіў мяне аўтам Валікаў сябар). Заснуў я ўсяго на некалькі гадзін з адчуваннем невялікай сэнсоўнасці гэтага свайго шастання: як у Махнатым, так і ў Супраслі, быў я патрэбен барджэй за ўсё ў ролі нейкай аздобы таварыству... І толькі ў асяроддзі *белавежцаў* вярнуўся да мяне сэнс.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— дэпутат Шут знаходзіўся ў складзе дэлегацыі Беларускага народнага фронту „Адраджэньне" на Другі Кангрэс БДА;*

*— мітрапаліт Мікалай з'яўляецца галавою Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне.*

# У беларускай школе ў Вільні

У дзвярах прапускаю прыгожую дзяўчыну, якая можа быць вучаніцай старэйшага класа або і маладой настаўніцай.

— Спасибо, — кажа яна і тут жа хутка папраўляецца, — дзякуй.

***

Пра беларускую школу ў Вільні пісала ў „Ніве" (ад 9 кастрычніка 1994 г.) Лена Глагоўская, стаўлячы віленчукоў у прыклад беластачанам. „Сорам Беластоку!" — сцвердзіла аўтарка, — у якім „пражывае амаль уся нашая інтэлігенцыя" і ў якім „нічога апрача ідэі стварэння беларускай школы не змяняецца".

— У вас зусім іншая сітуацыя, — гаворыць мне віленчук, Сяргей Шупа. — Вільня заўсёды была шматнацыянальным горадам, тут працуюць розныя школы і нікога гэта не здзіўляе. А Беласток, гэта горад, дзе вельмі моцны польскі нацыяналізм. У Беластока, па сутнасці, адзін твар — польскі і там стварыць меншасную школу вельмі цяжка.

68-ая віленская беларуская школа далекавата ад цэнтра горада, у раёне Каралінішкі, але даезд добры. За вокнамі відаць лес. У 12 класах — адпавядаюць яны курсу нашых пачатковай і сярэдняй школ — навучаецца 140 вучняў. Гэта першы год школы, якую называюць Беларускай віленскай гімназіяй, хаця фармальна няма гімназій у літоўскай адукацыйнай сістэме. Усе з нецярплівасцю чакаюць, як з уступнымі экзаменамі ў вышэйшыя школы будуць спраўляцца першыя выпускнікі.

Марыля Шупа два гады вучылася ў беларускіх класах, цяпер — у трэцім класе — вучыцца ў літоўскай школе.

— У нацыянальным сэнсе гэтая школа нашай дачушцы нічога ўжо даць не можа, — кажа Сяргей. — Зусім наадварот, калі там дзецям даводзіцца тлумачыць асноўныя справы, дык Марылька не мае ніякай матывацыі для працы. Тады з дзіцём адбываецца рэгрэс.

Чые ж тады дзеці вучацца ў беларускай школе?

— Перш за ўсё тых бацькоў, якія ў сённяшняй Літве не могуць прыжыцца, — кажа настаўнік гісторыі Сяржук Вітушка. — З расейскіх школ яны дзяцей пазабіралі, бо там, у большасці, дрэнна вучылі літоўскай мове. Наша школа да літоўскай мовы ставіцца вельмі сур'ёзна, апрача гэтага дае магчымасць выпускнікам паступаць у вышэйшыя школы Беларусі. Думаю, што частка бацькоў сур'ёзна разглядае магчымасць пераехаць у Беларусь.

У школе многа ўвагі адводзіцца навучанню моў. Апрача беларускай, на якой вядуцца заняткі, і дзяржаўнай літоўскай можна вучыцца англійскай, нямецкай, французскай, расейскай, лацінскай. Гэта, безумоўна, павінна заахвочваць выбіраць якраз гэтую школу.

Ёсць, пакуль што, праблема з падручнікамі ды іншымі навуковымі дапаможнікамі. Настаўнік гісторыі адчувае гэта асабліва балюча. Выкладае па-беларуску гісторыю Літвы на падставе рускамоўных падручнікаў. Вучні чытаюць па-расейску, але адказваюць ужо па-беларуску. А ўявіце сабе кантрольную працу ў пятым класе, дзе гісторыя спалучаная з геаграфіяй у адзін прадмет — натуральнае асяроддзе. Тэма — азёры. Вучні пішуць пра плытка- і глыбокаводныя азёры, пра раслінны і звярыны свет у іх, толькі час-часам пытаючы, як тая ці іншая рыбка завецца па-беларуску.



*На ўроку ў восьмым класе.*

Вучні восьмага класа мне, госцю, расказваюць пра славуты віленскі кірмаш — Казюка, які ў пачатку сакавіка праходзіў у горадзе. Крыху цяжкавата разабрацца ў традыцыях некалькіх народаў. Але моладзь, хаця раз гаворыць Казюк, а раз Казюкас (канчаткі іхніх прозвішчаў, таксама ўяўляюць сабою блытаніну), усё-такі паслугоўваецца беларускай мовай. Як на першы год школы, гэта, па-мойму, вельмі многа.

— Пра нашу школу многа апошнім часам пісалі літоўскія газеты, — расказвае Сяржук Вітушка за гарбатай у школьнай сталоўцы, — а гэта ў сувязі з візітам прэзідэнта Лукашэнкі ў Вільню. Наведаў ён нас і перадаў падаркі. Камп'ютэры і аўтобус.

Камп'ютэры, пакуль няма адпаведна забяспечанага кабінета, стаяць не распакаваныя ў падвале. Аўтобус ужо некалькігадовы, але дзякуючы яму можна будзе арганізаваць розныя экскурсіі, што таксама павінна паўплываць на атракцыйнасць школы.

— Як бы нам наладзіць кантакты з беларускімі ліцэямі на Беласточчыне, — задумоўваецца Сяржук Вітушка. — Мы б маглі прыняць тут групу моладзі, накарміць, даць жыллё, паказаць Вільню і ваколіцу. А нашы вучні, думаю, што напачатак са старэйшых класаў, маглі б пазнаёміцца з Беласточчынай, можа пабываць на якім свяце, ці то Купаллі, ці „Басовішчы".

Пытанне кантактаў з іншымі беларускімі асяродкамі для Віленшчыны асабліва вострае. Дзяржаўная мяжа (якое ў гэтым месцы ніколі не было) адрэзала яе ад Беларусі і робіцца ўсё больш шчыльнай. Для нашых ліцэяў кантакты з калыскай беларускага нацыянальнага руху таксама павінны быць немалаважнымі. Вучні, якія хочуць пабываць у цудоўным горадзе Вільні і завязаць знаёмства са сваімі аднагодкамі, якія там жывуць і вучацца, павінны самі нацiскаць на настаўнікаў. Бо, баюся, што, калі не будзе асабістага зацікаўлення, нічога з такіх кантактаў не атрымаецца.



*Сяржук Вітушка з вучаніцамі дзесятага класа на фоне выстаўкі, прысвечанай Віленскай беларускай гімназіі.*

**Мікола Ваўранюк**
**фота аўтара**

# За навукай у горад

*(успаміны)*

Дзесьці ў палове кастрычніка 1939 г. бацька мой даведаўся, што ў Брэсце працуюць ужо сярэднія школы. Тады ён узяў мяне і майго сябра Ляшчынскага Антона і паехалі мы цягнікам у Брэст. Па дарозе відны былі сляды нядаўняй вайны. За Высокім, недалёка рэек, ляжалі два нямецкія самалёты з чорнымі крыжамі, стаялі абпаленыя тры нямецкія танкі, то зноў ляжала разбітая гармата, а побач грузавы аўтамабіль. Сустракаліся рэшткі сялянскіх вазоў, якімі ўцякалі бежанцы. Горад Брэст я пабачыў ужо другі раз. Першы раз быў я там у ліпені, калі здаваў экзамен у тэхнікум. На акраіне горада стаялі невялікія аднапавярховыя дамы, часта драўляныя, як у вёсцы, толькі з дахамі пакрытымі не саломай, а чарапіцай, гонтамі або бляхай.

Тэхнікум быў вялікі, меў многа класаў, майстэрняў і іншых пакояў. Нас там хутка размеркавалі па класах і сказалі, каб на наступны дзень прыходзіць на ўрокі на дзевятую гадзіну раніцы. Бацька мой завёў нас яшчэ ў рускую гімназію і запытаўся ў канцылярыі, ці нас туды не прымуць. Мы папалі на перапынак і ў калідорах было многа гімназістаў у цёмна-сініх касцюмах з бліскучымі гузікамі. Вучні між сабою гаварылі толькі на чыстай рускай мове. Гэта былі дзеці мясцовай рускай інтэлігенцыі. У канцылярыі нам адмовілі, бо мы не здавалі экзаменаў.

З гімназіі бацька завёў нас на ўскраіну горада да свайго знаёмага, з якім яшчэ перад першай сусветнай вайной працаваў недзе на чыгунцы. Дом, у якім ён жыў, быў аднапавярховы, з бляшаным дахам, меў некалькі пакояў, вялікую кухню і ванную з туалетам. Гаспадар уцешыўся, жонка яго таксама. Яны былі праваслаўныя. Зараз запрасілі нас на абед, на які прыйшла іх вельмі прыгожая 17-гадовая дачка.

Мой бацька дагаварыўся з гаспадарамі, што мы астанемся на іх кватэры і адсюль кожны дзень будзем амаль два кіламетры хадзіць у тэхнікум. Мы атрымалі адзін пакой з двума ложкамі, вялікай шафай з люстрам і цяжкім сталом з двума крэсламі.

На наступны дзень рана мы пайшлі ў тэхнікум, а бацька паехаў цягніком у Матыкалы, адкуль пайшоў у вёску Церабун, да сваёй сястры Ялены, якая там была замужам.

Я быў там у іх у 1938 годзе. Была гэта багатая вёска ля шырокай ракі Лясной, цераз якую на другі бок трэба было пераязджаць шырокім паромам. Я першы раз тады пабачыў паром. На другім баку ракі на ўзгорку стаяла вялікая прыгожая царква. Муж цёткі быў багатым, як на польскія перадваенныя ўмовы, селянінам, меў вялікі дом, а ля дома вялікі сад, дзе раслі яблыні і грушы. Цётка мела дзве дачкі (адна ўжо была замужам) і аднаго сына, які быў ад мяне на два гады старэйшы. Бацька паехаў да іх і дагаварыўся са шваграм, каб ён прывёз у Брэст, на нашу кватэру, муку, бульбу і іншыя харчы для нас.

У тэхнікуме ўсе ўрокі вяліся толькі на польскай мове. Акрамя таго была яшчэ абавязковая нямецкая мова і як дадатковы прадмет (за аддзельную аплату) — французская. На жаль, не было ў нас кніг і мы ўсе ўрокі запісвалі ў сшыткі. Большасць вучняў складалі палякі, пераважна дзеці польскай інтэлігенцыі.

Да дачкі нашых гаспадароў час ад часу прыходзіў элегантна адзеты малады чалавек, яе нарачоны. Яны заўжды сядзелі адны ў суседнім з намі пакоі. Калісь цераз незачыненыя дзверы я выпадкова ўбачыў, як яны цалаваліся.

7 лістапада 1939 г. нас павялі ў цэнтр горада на парад. На трыбуне стаялі савецкія камандзіры і нямецкія афіцэры. Прайшло па вуліцы некалькі дзесяткаў танкаў і машын. Пасля, у зваротнай дарозе, пабачылі далей ад цэнтра два сапсаваныя савецкія танкі. У аднаго зляцела з колаў гусеніца.

У кожную суботу пасля заняткаў у тэхнікуме мы ўжо не ішлі на кватэру, а толькі на чыгуначны вакзал, каб вярнуцца цягніком у Чаромху, дамоў. У нядзелю вечарам ізноў вярталіся ў Брэст, з запасам мяса, масла, сыру і іншых харчоў на цэлы тыдзень.

І так мы прасядзелі ў Брэсце больш чым месяц. І вось пад канец лістапада, калі я быў дома ў Чаромсе, у нядзелю рана прыйшоў да мяне сябра Антон і гаворыць: „Сёння не едзем у Брэст, бо ў Бельску-Падляшскім арганізуецца беларуская сярэдняя школа. Можа нас там прымуць? Будзе бліжэй дадому".

*(заканчэнне будзе)*

**Дзмітрый Шатыловіч**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Юныя шахматысты з Кляшчэляў

Маладыя шахматысты з Пачатковай школы ў Кляшчэлях упершыню пасля шматгадовага перапынку ўдзельнічалі ў шахматным турніры. Каманда ў складзе: **Альжбета Дрангоўская (вучаніца VII класа), Малгажата Літвіновіч (V кл.), Павел Клімовіч і Блажэй Панасюк (VI) кл.)** заваявала першае месца ў Бельску-Падляшскім, другое ў Сямяцічах і трэцяе ў Моньках. Пасля ваяводскіх розыгрышаў яна займае 5 месца. З гэтага дасягнення задаволеныя юныя кляшчэлеўскія шахматысты і іх апякун, настаўнік тамашняй школы **Аляксандр Смалікоўскі**. У наступным навучальным годзе да шахматнага турніру будуць падрыхтаваны ўжо не адна а дзве каманды. Ёсць ахвотныя юнакі і з іх будзе асноўны састаў другой групы.

**(яц)**

## Для самых маленькіх

### Жук-жучок

Жук-жучок,
пакажы бачок.
Пакажы мне ножкі,
залатыя рожкі.
Дай пакратаць крыльцы,
што ў цябе на спінцы.
А цяпер сабе ляці,
толькі моцна не гудзі.

### Мурашка

Я маленькая мурашка,
быць малой мурашкай цяжка.
Дом высокі, дом вялікі,
тут акон, дзвярэй — без ліку.
Я гуляць адна баюся,
бо без мамы заблуджуся.
А яна штодня, бясконца,
як узыдзе толькі сонца,
працай рупнаю занята.
— Не сумуйце, немаўляты,
падрастайце да пары,
вы — лясоў гаспадары!

### Верабей

Не хачу лавіць больш мошак.
Дайце хлеба,
дайце крошак,
жменьку крупак,
лыжку кашы —
я цяпер да веку вашы!
Прыручыце верабейку —
будзе большаю сямейка.

### Не спазніцца ў казку

Да дзядулі і бабулі
ў госці ехала Гануля.
А спачатку пазваніла,
з пеўнікам пагаманіла,
з куркай-рабкай і катом:
— Не пускайце мышку ў дом!
І дамовілася з дзедам,
залатое яйка дзе там
захаваць ад хітрай мышкі,
не пускаць шкадлівую з кніжкі.
Прыглядаць за калабком,
каб не збег у лес тайком...

У дарозе ёй не спіцца:
як бы ў казку не спазніцца!

**Ала Канапелька**



*Вясна.* **Малюнак Каміля Ігнацюка з Храбалоў**

## СКОРАГАВОРКІ

Пчолка ў чоўніку плыла.

*

Чорны жучок сеў на сучок, сучок зламаўся, жучок падняўся.

*

Груня грызла з Грышам грушы.

*Замест слова „Грышам" пастаўце імёны сваіх калег: напрыклад, Сашам, Жэнем, Шурам.*

## Магічная крыжаванка




Падбярыце два словы і ўпішыце іх і ў гарызантальныя, і ў вертыкальныя клеткі. Рашэнні дашліце ў рэдакцыю.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Яшчэ пра Мажанну

21 сакавіка 1995 года наш IIIе клас ладзіў развітанне з зімой. На ўроку малюнкаў мы зрабілі Мажанну (глядзі здымак). Потым пайшлі на вуліцу Казімежоўскую. Стоячы на мосце мы з вялікай цяжкасцю падпалілі куклу. Калі Мажанна пачала гарэць, мы ўкінулі яе ў раку і глядзелі, як яна плыве, пакуль не схавалася за паваротам. Тады мы пайшлі на другі мост. Па дарозе мы аглядалі першыя кветкі, якія ўжо зацвілі ў агародах: падснежнікі і шафраны. На другім мосце пабачылі нашу Мажанну з яе „сяброўкай" — іншай куклай. Цэлы клас прыглядаўся лялькам, пакуль яны не згінулі нам з вачэй. Потым вярнуліся ў школу.

**Анэта Леанкевіч
Пачатковая школа н-р 3
у Бельску-Падляшскім**



### Творчасць нашых суродзічаў

**Глеб Кануннікаў** усім сябрам і калегам у Польшчы дасылае, разам са сваімі апавяданнямі, найлепшыя пажаданні. Сам пра сябе напісаў:

*Мне адзінаццаць гадоў. Вучуся ў шостым класе ў школе з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Таксама наведваю заняткі ў музычным вучылішчы — граю на піяніна. Студыю станковага жывапісу давялося пакінуць, бо займацца там стала вельмі дорага — не па кішэні бацькам.*

*Так, я малюю, пішу апавяданні і казкі, музыку на добрыя вершы, катаюся на роварах, чытаю... Не прапускаю заняткаў у секцыі каратэ. Друкаваўся ў гасопісе „Першацвет".*

Сёння чытачам „Зоркі" прапануем два ягоныя творы.

## Плыў рыбак па Нёмане

Аднойчы плыў рыбак па Нёмане і ўбачыў невялікую рачулку. Падумаў рыбак — дый скіраваў свой човен у вузкае вусце... Хілілася ўжо на вечар, і ён вырашыў пераначаваць на высокім прыгожым беразе. Зварыў сабе юшкі, паеў ды і ўлёгся спаць — натаміўся за дзень...

Прачнуўся ён на досвітку, працёр вочы, а навокала — прыгажосць невыказаная: расінкі на травах дыяментамі зіхацяць, хвалі ў рачулцы ізумрудамі пераліваюцца, а шыпшынкі на кустах яхантамі палымнеюць...

Хоць і трэба было рыбаку дахаты вяртацца, ды не змог ён гэтага месца пакінуць — надумаў да вечара застацца. Не заўважыў, як і дзень прамінуў — за рыбарствам час хутка бяжыць. А на ноч глядзі якая ж дарога?.. Так і застаўся рыбак зноў начаваць. А там — і трэці дзень праляцеў, і чацвёрты... Зачаравала гэтае месца рыбака. Спахапіўся ён толькі праз тыдзень: „Час дамоў вяртацца, нявеста чакае. — І вырашыў: — Паплыву дадому, ажанюся з Настачкаю ды прывязу яе сюды. Тут і жыць будзем..."

Сказана — зроблена. Ажаніўся рыбак і вярнуўся на высокі бераг з маладой жонкаю. Так яны месяц жывуць, два, а ўслед за імі і іншыя рыбакі на чароўнае месца пачалі завітваць ды прыжывацца.

Неўзабаве разраслося паселішча ледзь не ў горад. А калі горад, дык трэба вакол яго ўзводзіць плот, каб бядла ў шкоду не лезла. Вось людзі і ўзяліся за работу: пачалі агароджу з жалеза каваць, карункамі з дрэва яе аздабляць... Нарэшце ўкапалі ў зямлю — ані шчылінaчкі. Дый размалявалі як!.. Тут — нібы бура ладдзі па Нёмане гоніць, а там — красачкі, як сапраўдныя, цвітуць...

Шмат людзей з чужых земляў прыплывала на іх дзівосную агароджу паглядзець ды на высокія хорамы падзівіцца. Адзін чужаземец не вытрымаў і выгукнуў:

— Такім хараством людзі абгарадзіліся! — І потым дадаў, звяртаючыся да рыбакоў: — Дык завіце сваё месца Гародняй, а сябе гарадзенцамі!..

Згадзіліся тыя, і з таго часу так і называюць усе старажытнае паселішча, якое даўно стала ўжо вялікім прыгожым горадам.

## Як дзед ваўка папарыў

*(беларуская народная казка)*

Жылі-былі дзед і баба. Мелі яны шэсць авечак, аднаго бычка, курачку з пеўнікам і сучку з ланцужком. Даведаўся аб гэтым воўк. Прыходзіць аднойчы вечарам, стукае ў вароты і галосіць: „Шэсць, шэсць авечак, сёмы бычэчак, курка з пеўнікам, сучка з ланцужком. Дзед, дзед, аддавай адну авечку, а то бабу з'ем!"

Што рабіць дзеду, шкада бабы. Трэба авечку аддаць. Воўк з'еў у лесе авечку, паспаў і зноў прыходзіць увечары пад браму да дзеда, стукае і галосіць:

— Пяць, пяць авечак, шосты бычэчак, курка з пеўнікам, сучка з ланцужком. Дзед, дзед, аддавай адну авечку, а то бабу з'ем!

Аддаў дзед другую авечку. Так воўк хадзіў, пакуль не з'еў усіх авечак, бычка, пеўня, курачку, сучку з ланцужком. Так прывык, што зноў прыйшоў.

— Дзед, дзед, аддай бабу, а то цябе з'ем!

— Добра, — кажа дзед, — толькі перад тым як бабу будзеш есці, прыходзь да мяне ў лазню, памыешся, ды і бабу папару, каб была мякчэйшая.

Воўк згадзіўся.

Выпаліў дзед лазню, нагрэў камення, накідаў у цэбар аж вада закіпела. У полцы зрабіў дзед дзірку і закрыў яе, а пад полку паставіў цэбар з вадою, кіпятком. Была зіма. Воўк намёрзся на двары. Яму надта хацелася пагрэцца. Адразу як зайшоў у лазню скок на полку, а там дзірка. Воўк у кіпятку знайшоўся, апарыўся цэлы, выскачыў і ў лес. Радаваліся дзед і баба. Самі пайшлі ў лазню. Памыліся ды да хаты вяртаюцца. Воўк тым часам забег у лес, назбіраў ватагу ваўкоў і ідзе з'есці старых. Добра, што елка расла на панадворку. Залезлі старэчы на дрэва і чакаюць. А і ваўкі дурныя не былі. Адзін на аднаго сталі і ўжо верхні бабу дастае. Бачыць дзед, што дрэнна будзе. Як жа не загарланіць ён на ўсю ваколіцу:

— Баба, баба, давай кіпятку, ваўка паліём.

А воўк, які нядаўна папарыўся, на самым нізе быў. Скочыў, рвануў і ўсе ваўкі на зямлю паваліліся. Хто нагу паламаў, хто шыю, ніхто цэлы не астаўся. Павалакліся яны ў лес і больш ужо да бабы і дзеда не вярталіся.

З-ка

## Другакласнікі з Чыжоў



Нядаўна „Зорка" гасцявала ў Чыжах. На сустрэчу з другакласнікамі запрасіла яе настаўніца беларускай мовы Анна Лаеўская.

Мае новыя сябры, хаця яшчэ добра не чытаюць, „Зорку" ўжо ведаюць. Іхняя настаўніца чытае ім казкі з нашага часопіса.

У 2-ім класе беларускую мову вывучае 12 дзетак. Пераважаюць дзяўчынкі. Іх аж у два разы больш, чым хлопчыкаў. Сярод іх тры Паўлінкі, Юліта, Мірка, Аня, Кася, Эмілька і хлопцы — Павел, Адась, Ясь і Адрыян. Дзеці гэтыя з розных, часам адлеглых вёсак — Асоўкі, Мора, Шастакова, Лядаў, Падрэчан, Чыжоў.

— Вельмі часта пасля ўрокаў еду на ровары наведаць сваіх сяброў, — прызнаўся непаседлівы Адрыян. Хлопец прадэкламаваў спецыяльна для „Зоркі" вершык пра „Ваўка". За ім вершы чыталі на памяць Паўлінка Мароз і Юліта Башунь. Многія дзеці расказвалі пра свае сем'і, вёскі і сяброў.

Усе дзеці з другога класа паабяцалі, што будуць аж да восьмага класа хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Яны таксама хочуць сябраваць з нашай рэдакцыяй, пісаць у „Зорку" пра свае справы, удзельнічаць у беларускіх конкурсах. А неўзабаве намалююць герояў казак, што друкуюцца ў „Зорцы".

Да пабачэння, сябры! Чакаю вашых малюнкаў.

**Зорка**

## Калі ў Беларусь прыйшло хрысціянства?

У 988 годзе кіеўскі князь Уладзімір, названы таксама Вялікім, прыняў хрысціянства. Гэтая дата ўспрымаецца як хрышчэнне ўсёй Русі. Вядома аднак, што ўжо сто гадоў раней у Полацкім княстве пабывалі хрысціянскія місіянеры. Землі Беларусі ляжалі на вялікім водным шляху з варагаў (Скандынавіі) у грэкі. Дзякуючы яму ў нашую краіну прыбывалі не толькі дарагія тавары, але і ідэі. Першыя хрысціяне, якія распавядалі палачанам ці тураўлянам пра сваю веру, выклікалі цікавасць, а не варожасць. Паганскія свяшчэннікі — валхвы — хрысціянскага Бога ўспрымалі як яшчэ аднаго ідала (так называлі паганскіх багоў), якіх у іх было нямала.

У X стагоддзі жыў у Полацку місіянер — ісландзец Торвард Вандроўнік, яго нават там пахавалі ў манастыры Іаана Прадцечы. Хрысціянамі былі: княгіня Рагнеда, сын яе Ізяслаў і наступныя князі палачане. Каля 992 года была заснавана Полацкая епархія, а з пачаткам XI ст. таксама ў Тураве (каталіцкая). У XI стагоддзі князь Усяслаў Чарадзей пабудаваў царкву Святой Сафіі (1055 г.) у Полацку.

Хрысціянства ў Беларусь прыйшло ў тым жа часе, як і ў многія іншыя краіны Еўропы (Данію, Швецыю, Нарвегію, Польшчу, Харватыю). Пануючай рэлігіяй яно стала толькі ў канцы XII—XIII ст.

З-ка

## Гарадоцкія працавічкі

У Гарадку беларуская групка з III класаў („а" і „б") налічвае ўсяго пяць дзяўчынак. Гэтыя незвычайныя дзеткі не лянуюцца прыходзіць на ўрокі роднай мовы. А вось яны: Бэатка Лаховіч, Улька Паплаўская, Марта Зялінская, Агатка Нос і Аня Тур.

Дзяўчаткі любяць займацца ў тэатральным гуртку. Зараз яны рыхтуюць п'еску пра каралеву Снягурку. І гэта ім усім вельмі падабаецца.

З-ка



## Нечаканыя спадарожнікі

— Прыём! На сувязі „Форвард-54"!

— „Цэнтр-2" слухае!

— Пачынаю вывучаць біяшукальнікам планету АІД-105!

— Памятайце: ад вас цяпер залежыць лёс маёй гіпотэзы, — нагадаў прафесар Задорын.

— Увага! Ідзе адлік часу...

Мой шэф, прафесар Задорын, нядаўна распрацаваў арыгінальную тэорыю. Сутнасць яе ў тым, каб даказаць, што некаторыя субстанцыі змаглі прыстасавацца да неверагодных умоў так, што перасталі рухацца, харчавацца, размнажацца — карацей, ператварыліся ў замкнутыя сістэмы, накшталт звычайных камянёў. Вывучалі пры гэтым біяполе — менавіта яно павінна было стаць вызначальным фактарам прысутнасці ў дадзеным суб'екце жыцця. Магчыма такое? Безумоўна! Тэарэтычна. А практычна?

Некаторыя апаненты Задорына абурыліся:

— Не можа быць!

Іншыя асцярожна сумняваліся:

— Аднак калі сістэма замкнутая, да яе няма прытоку энергіі, значыць, яе поле катастрафічна слабее — нават самыя чуйныя прыборы не змогуць адчуць гэтае біявылучэнне.

Задорын пярэчыў:

— Я веру ў поспех!

На Вучонай Радзе пастанавілі: паслаць аднаго аспіранта (мяне), Дзмітрыя Цюніна, на касмалёце „Ф-54" на планету з пякельным кліматам — АІД-105. Праверыць, ці здольныя там існаваць хоць нейкія жывыя арганізмы.

Я апрануты ў спецыяльны антыпалярны касцюм, каб выключыць уплыў майго біяполя на вымяральныя прыборы. Праз пяць хвілін трэба пачынаць эксперымент...

— Тры, два, адзін... Нуль!

Аднастайны пошум прыбораў. І гэта ўсё?! Я падсвядома чакаў ледзь не выбуху. З неахвотай паварочваўся да апарата. Стрэлка — паказальнік магутнасці — ледзь не зашкальвае. Гіпотэза прафесара Задорына пацвярджаецца. Цікава, што можа жыць у гэтым пекле? Шкада, што нельга спусціцца на планету і паглядзець: жорсткае гама-вылучэнне, небяспечныя штуршкі паверхні і атрутная атмасфера надзейна ахоўваюць тайну АІД-105.

— Раптам да мяне далятае:

— Гаворыць Ц-2! Вы нас чуеце?

Гэты ўладны голас чамусьці вывеў мяне з раўнавагі, і мне захацелася крыкнуць яму ў адказ што-небудзь злоснае, але я стрымаўся.

— Прыём, — адказаў стомлена.

— Вяртайцеся на базу. Ёсць вынік!

Здаецца, усё нармальна. Аднак нейкая падазронасць не пакідае мяне... Біяшукальнік рэагуе на любое вылучэнне, што знаходзіцца не далей чым за пятнаццаць тысяч кіламетраў ад яго. Цяпер я адзін-адзінюткі ў гэтай пустэчы, маё цела ізалявана антыпалярным касцюмам — значыць, другі жывы арганізм знаходзіцца на планеце. Няўжо? Я губляюся ў здагадках...

На Базе падрыхтавалі ўжо шампанскае, фужэры, тосты.

Задорын фамільярна паляпвае мяне па плячы і гаворыць:

— Ну што, саколік? Я заўсёды ведаў, што я — геній!

Унутры ў мяне неяк сумна і пуста. Самаўпэўненасць Задорына раздражняе. Быццам гэта ён быў на той планеце, на якой немагчыма жыццё, адкрываў біяполе...

І тут я нечакана ўспомніў, адкуль яно ўзялося. Бягу на Ф-54 з вялізным флаконам дыхлафосу. І чаму я раней не здагадаўся?! Там жа, у маторным адсеку, здаўна жылі звычайныя рыжыя... прусакі.

Жыццё — і сярод выпаленай пустэчы не адзінокае!

**Глеб Кануннікаў**

# Развітанне з Радзімай

У часе Міжнароднага тыдня тэатра ў Беластоку спектакль „Ідылія", пастаўлены Акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы з Менска, стаў сенсацыяй. Спектакль гэты абаперты на лібрэта оперы „Sielanka" В. Дуніна-Марцінкевіча, музыку да якой напісаў Станіслаў Манюшка. Упершыню гэта опера была пастаўлена 9 лютага 1852 года ў Менску музычна-драматычным гуртком, створаным Дуніным-Марцінкевічам.

Мінула 140 гадоў ад таго часу, але спектакль не страціў актуальнасці. Паслужыў ён канвой для філасофскай інтэрпрэтацыі п'есы маладым рэжысёрам Міколам Пінігіным. Дасканалыя ролі Зоі Белахвосцік (Юля), Лілі Давідовіч (жонка арандатара), Юрыя Авяр'янава (арандатар) і ўсіх іншых надоўга застануцца ў памяці беластачан.

З рэжысёрам **МІКОЛАМ ПІНІГІНЫМ** пра спектакль і іншае гутарыць **АДА ЧАЧУГА**.

*— Кажуць, што Вы — па нацыянальнасці рускі?!*

—Бацька ў мяне сапраўды рускі, але маці — беларуска з Гародні. Беларускую мову я ў школе не вывучаў, дык не магу сказаць, што я хварэў адраджэнскімі праблемамі з дзяцінства.

*— Калі ж запаланілі Вас гэтыя справы?*

— У Тэатральна-мастацкім інстытуце (сёння Беларуская акадэмія мастацтваў), які я скончыў у 1979 годзе па спецыяльнасці: рэжысёр тэлебачання. Менавіта там пачаў я гаварыць па-беларуску і пранікся ідэямі беларускага адраджэння. Пасля працаваў у тэлебачанні, быў акцёрам, а вось ужо больш дзесяці гадоў я ў тэатры Янкі Купалы. Рэжысёрам, вядома. Калі ўсур'ёз пачаў я займацца тэатрам, зацікавіла мяне тэматыка памежжа.

*— У гэтай тэматыцы неабходна было заняць канкрэтную пазіцыю?*

— На Беларусі мы кінуліся апантана адраджаць усё: культуру, мову, спадчыну, герояў. Я не бегаў па Менску з бел-чырвона-белым сцягам, але шукаў у літаратуры лягчэйшага жанру. Народ стаміўся.

*— І Вы выбралі твор Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, у якога, паводле Францішка Багушэвіча, усё „быццам смеючыся з нашага брата" было пісана?*

— Мо Дунін-Марцінкевіч і ставіўся да народа як пан, маўляў, і яны — людзі, але быў гэта чалавек вялікай еўрапейскай культуры і шмат зрабіў для станаўлення беларускай літаратуры. А мне абрыдлі ручнікі і лапці.

*— Мо ў гэтым і сутнасць сапраўднага адраджэння: каб адраджаць усе пласты нацыянальнай культуры, свядома ці несвядома забытыя, адкінутыя ў нурт мінулага, непатрэбнага...*

— Я маю намер неўзабаве паставіць у Беларускім оперным тэатры оперу „Фауст", але не будзе там традыцыйнай музыкі Гуно, а прагучыць музыка, напісаная адным з Радзівілаў — ноты



*Сцэна са спектакля "Ідылія" ў выкананні тэатра імя Янкі Купалы з Менска.* Фота А. Згета

прывезеныя са Скарынінскай бібліятэкі ў Лондане. І хаця паставім оперу на арыгінальнай, нямецкай мове (словы Гётэ), лічу, што гэта будзе важкі факт беларускай культуры.

*— Пасля пастаноўкі Вамі „Тутэйшых" Янкі Купалы, а пазней „Ідыліі" паводле „Sielanki" В. Дуніна-Марцінкевіча многія абразіліся і пачалі паўтараць, што ўсё ж Вы — не беларус...*

— Мо і сапраўды, калі б я быў такі зацяты беларус, калі б прыклеіў сабе ярлык беларускага нацыяналіста, дык не змог бы з такой усмешкай паставіць гэты спектакль. Аднак жа, у Літве пасля спектакля „Тутэйшыя" мы пачулі: **калі ваша нацыя можа так смяяцца з сябе, дык у вас ёсць БУДУЧЫНЯ!**

*— Вінцук Дунін-Марцінкевіч напісаў, як вядома, лібрэта да оперы „Sielanka", а музыку напісаў мінчук Станіслаў Манюшка. З гэтай музыкі да нашых дзён дайшлі ўсяго рэшткі. Як стваралася музыка да Вашага спектакля?*

— Музычную апрацоўку зрабіў Уладзімір Кур'ян. Ён выкарыстаў „Śpiewnik domowy" С. Манюшкі і стылізаваў тэксты В. Дуніна-Марцінкевіча і Л. Майсюка-Драньк о. У эпілогу выступае паланез Агінскага, у пралогу — намёк на „Севільскі цырульнік" Расіні, ёсць крыху яўрэйскай музыкі — танец карчмароў. А з арыгінальнай музыкі Манюшкі засталася толькі арыя камісара: „Ах!" Мы свой спектакль вырашылі назваць пастараллю — Манюшка пра яго казаў: паўопера, паўаперэтка.

*— Ці доўга ідзе ўжо гэты спектакль у Менску?*

— Мы яго паставілі на новы, 1994 год. Ужо адбылося 50 прадстаўленняў. Іграем па чатыры разы ў месяц.

*— Вы кажаце, што Вас зацікавіла ідылія як жанр, модны ў XIX стагоддзі. Але ў Дуніна-Марцінкевіча ўвыніку вяртання Кароля Лятальскага з Парыжа на радзіму і пачуцця да мясцовай дзяўчыны Юлі наступае ідылія. Пан пакахаў сваіх прыгонных, яны пачынаюць лічыць яго сваім бацькам. У Вашым жа спектаклі гэты момант набывае ранг гратэску. Сяляне, быццам нейкія маньякі, без патрэбы і з вялікім пафасам паўтараюць:* **бацька! бацька!** *Ды і што з тым шарам, на якім героі п'есы мелі ляцець у краіну шчасця? Не выглядае, што шчасце іх у тым, што засталіся на Радзіме.*

— Я павыварочваў усё дагары нагамі. Канцэптуалізм, разумееце?! У дваццатым стагоддзі я не магу ставіць п'есу так, як у дзевятнаццатым. Для мяне важна, што гэты ідылічны шар, на якім уся Беларусь з яе абшарамі, з яе лапцямі, хамутамі, сярмяжнасцю меў узняцца вышэй, а вышэй пшык. Так, як з нашай краінай. Будучыня Беларусі — у яе інтэграцыі з еўрапейскай культурай. А ў нас прэзідэнт быццам незалежнай краіны адмаўляецца ад незалежнасці, ад нацыянальнай сімволікі, Пагоні, мовы, культуры. Поўнае развітанне з Радзімай! Я ўжо заўважаў гэту „ідылію" крыху раней. І гэта палітычны сэнс спектакля. (Бач ты, а ўсё ж такі выцягнула...).

*— Дзякую. Гэтага я не вычытала ў ніводнай рэцэнзіі на Ваш спектакль.*

**Гутарыла**
**Ада Чачуга**

# Віктар Шалкевіч у Беластоку

3 красавіка 1995 г. у памяшканні БГКТ адбыўся канцэрт Віктара Шалкевіча. Мерапрыемства наладзіў Звяз беларускай моладзі.

Гродзенскі бард не толькі развесяляў публіку ў Беластоку. У той жа самы дзень ён наведаў і Гайнаўку, і Бельск. Апрача песень Шалкевіч, як заўсёды, расказваў анекдоты. Па спецыяльнаму жаданню публікі нястомна выконваў ён свае шэдэўры. Яго паклоннікамі з'яўляюцца пераважна студэнты, ліцэісты, моладзь. У Беластоку на сустрэчу з Шалкевічам з'явілася амаль сотня моладзі.

**Г. К.**

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

# БЕЛ-УК

І падумаць, што калісьці я быў зусім іншым чалавекам. Зрэшты, мой брат Сцёп — таксама.

Капалі мы канавы ў бельскім меліярацыйным прадпрыемстве, хвалілі штодзённы кантакт з натураю, ды нават цыганка не варажыла ніякай перамены ў нашай экзістэнцыі.

А ўсяму вінавата, як бабы кажуць, гарэлка: ранняй вясною, калі моцна перапіўшыся памёр Алесь, і ўвосень, калі нашая прадаўшчыца нарадзіла пекнага хлопчыка. Каб не піла сама, а толькі частавала іншых, прынамсі ведала б ад каго ёй так пашанцавала. А цяпер прыйдзецца хлапчуку шукаць патэнцыяльнага родзіча ў гэтак званым „чорным сшытку", у якім запісвала кліентаў, што бяруць спіртное напавер, а потым плацяць, хто чым зможа.

Помню, была субота, гадзіннік паказваў чвэрць на трэцюю бутэльку, калі Сцёп спытаў:

— Слухай, а хто мы такія?

Пытанне было недарэчнага гатунку, бо кожны ў вёсцы ведаў, што мы меліяратары. А калі хтосьці не быў нам прыхільны, бо, скажам, канава выкапана нашымі рукамі перамянялася, чорт яе ведае чаму, з асушальнай у арашальную, забіраючы на сярэдзіну рэчкі добра ўжо падсохлае сена, тады гэты хтось гаварыў на нас „пердолёнэ шмаравозы". Так ці сяк усё было яснае.

Сцёп аднак пытаў і элементарныя правілы культуры патрабавалі, каб чалавеку нешта адказаць.

— Як гэта, хто? Меліяратары, вядома.

Адказ відаць не быў здавальняючы, бо Сцёп, перакульнуўшы чарговую чарку, адазваўся зноўку:

— Калі я не пра гэтае. Я пытаю, хто мы: беларусы, украінцы, ці мо палякі?

— Сцёп, — кажу, — ёсць бутэлька? Ёсць. А закуска ёсць? Ёсць таксама. А вунь гэты аер бачыш? — паказаў я рукою туды, дзе аер сапраўды падымаў свае ілбы княжацкія па-над звычайнасць сухой травы.

— Бачу, чаму мне не бачыць.

— Калі бачыш, дык думай, Сцёп, думай. Мо гэта зусім не аер, а такая дзіўная трубка. Хукнеш тут, а ў Маскве дзядзька Сталін ужо будзе ведаць: піў Сцёп сёння, ці не піў.

Успамін вусатага дзядзькі адабраў нам ахвоту па даўжэйшую дыскусію пра палітыку і перайшлі мы на тэмы менш небяспечныя і каралям, і сакратарам, і прэзідэнтам.

Усё-такі гэтая размова асталася ўва мне і тлела яшчэ доўга, ой доўга. Даўжэй нават, чым торф пад лесам, падпалены ў злосці дзядзькам Ніканорам, калі ягоная жонка, стомленая і голая, вярнулася з барака манцёраў, што адольвалі якраз першы этап электрыфікацыі нашых пушчанскіх закуткаў.

Бывала, капаем пад лесам, а тут зязюля адазвецца:

— Хто ты? Хто ты?

Альбо дзяцел, падчапіўшыся ў галлі старога дуба, крыкне:

— То ты?! Хто ты ты?!

Час аднак робіць сваё. Спачатку нехта прыкмеціў, што ў большасці ўжо бываюць і меншасці, потым грэйдэр замясціў асфальт, а яшчэ потым па гэтым асфальце прыехаў капіталізм і таннейшыя прадукцыя выцясніла з рынку даражэйшую, г.зн. рускі спірт пераміг мясцовую самагонку. Чаму, аднак, гэты капіталізм прыехаў з усходу, а не з захаду, гэтага нават найстарэйшыя людзі растлумачыць не ў змозе.

Да гэтае пары, аднак, я ўжо апынуўся ў беларусах, а Сцёп, які ўмеў спяваць адну толькі, затое вельмі прыгожа, песню „Коло млына вода мутна", папаў ва ўкраінцы.

Карысць ад гэтага для нас абодвух была аднак няпэўная: менш мы пілі, больш сварыліся. Абсалютнае памяшанне логікі.

— Сцёп, — кажу ў канцы канцоў, — так далей не быць. Трэ нам рассудзіць усё якімсьці цывілізаваным спосабам.

— Я да цябе не пайду! — крыкнуў са свайго пакоя.

— Ну Сцёп, — падмаўляю, — не будзь такі Каргуль. Давай сустракацца на парозе, у нейтральнай зоне.

Памаленьку ўсё-такі прыйшоў.

— Сцёп, — кажу, — чаго нам сварыцца. Мы, беларусы, спакойны народ.

— Я — казак! — начапурыўся. — Твайго не хачу, а свайго не дам.

„Казак, казак. — А шабля заржавела і вайны не бачыла", — думаю пра Сцёпава старахаласцяцтва.

— Сцёп, — падгавараю, — даволі ўжо равы капаць. Трэба нам зажыць на старыя гады чысценька, цёпленька, у белай кашулі.

— Э, брэшаш. Як жа гэта магчыма?

— А магчыма, Сцёп, магчыма.

Пакуль растлумачыў я брату што і як, донца бутэлькі бліснула сляпым вокам, бы рыба вынятая з утульнай вады, і трэба было апаражніць і другую бутэльку.

Першы раз з незапамятных часоў распаўзаліся мы, кожны ў свой пакой, у прыкладнай згодзе.

А ў красавіку г.г. пабачыў свет „Васілёк Підляшша — тыднёвік бел-укоў у Польшчы". Праўда, міністр Ягела доўга і гераічна трымаўся за кішэню, а капітуляваў толькі тады, калі напомнілі мы пра Страсбург і правы нацыянальных меншасцей. А мо з такім прозвішчам яму проста сорамна было аставацца ў скупых?

Так, ці сяк наша газета пайшла ў людзі. А Сцёп нават такую вось рэкламную фразу прыдумаў:

*Як з гарэлкай селядцы,*
*як з хваробай кашаль,*
*у жыцці, браток ідзі,*
*з „Васільком Підляшша".*

Купляйце і чытайце, да чаго заахвочвае Вас галоўны рэдактар

**Міхась Андрасюк**

# Фаміна нядзеля

*(Іаан, 20:19—31)*

Першая нядзеля пасля Вялікадня называецца Фаміной нядзеляй. Пасля радаснага пасхальнага тыдня Царква ўспамінае яўленні ўваскрошага Хрыста апосталам. Калі Ісус упершыню з'явіўся вучням, увайшоўшы праз зачыненыя дзверы, не было сярод іх Фамы. Ён не паверыў сведчанням апосталаў: „Калі не ўбачу на руках Яго-ных ранаў ад цвікоў і не ўлажу рукі маёй у бок Яго — не паверу", — сказаў ён. Пасля васьмі дзён Збавіцель з'явіўся паўторна. Ведаючы пра сумненні Фамы, паказаў яму Свае раны і развеяў ягоны скептыцызм. Узрадаваны апостал усклікнуў: „Госпадзе мой і Божа мой". Хрыстос прыняў вызнанне веры Фамы, папракнуўшы яго аднак за няверʼе: „Ты паверыў, бо бачыў, але шчаслівыя не бачыўшыя і паверыўшыя".

Вера Фамы была б Ісусу мілейшай, каб ён меў добрую волю паверыць на падставе сведчання іншых. Калі б свет пайшоў за прыкладам Фамы, усе патрабавалі б довадаў і бясконцага даказвання. „Веру толькі ў тое, што разумею, што бачу", — заўсёды заяўлялі скептыкі, забываючыся, што пярэчаць самім сабе. Сёння акружае нас больш вядомы, аднак у далейшым поўны тайнаў і ў сапраўднасці незразумелы свет, а ў зразуменні яго, аказваецца мала прыдатны зрок або слых. Уся навука абапіраецца на веры. Ужо ў першым класе настаўнік напісаў літару „а" і дзіця паверыла, што гэта сапраўды „а". Затым прыйшлося без доказаў паверыць у мноства інфармацый па гісторыі, геаграфіі і астраноміі, не прабуючы нават усё правяраць і перамерваць. Калі б Калумб верыў толькі ў тое, што бачыў, ён ніколі не даплыў бы да Амерыкі. Гэтак жа Левер'е ніколі не адкрыў бы восьмую планету сонечнай сістэмы. Яны абодва дайшлі да сваіх адкрыццяў шляхам дэдукцыі, якая палягае на тым, што калі бачна дым, мусіць быць і агоньчык. Тое самае тычыцца і веры ў Бога. За яго існаваннем прамаўляюць сотні фактаў. Ёсць таксама навукова апрацаваныя доказы: анталагічныя і тэлеалагічныя, але ўсё роўна некаторых размілаваных у слоўным жанглёрстве ніякія доказы не пераканаюць: яны не хочуць прызнацца, што памыляліся...

Пытанне веры і нявер'я наогул звышчасовае; яго немагчыма і сёння абысці або прамаўчаць. Справа ў тым, што можна не верыць або верыць у тысячы другарадных з'яў і рэчаў, але вера ў Бога мае іншую вартасць. Яна важная таму, што ўплывае на жыццё, фармуе адносіны да іншага чалавека, да грамадства, да ўсіх сваіх абавязкаў. Яна выяўляецца ў маралі, у спосабе жыцця, у тым як жывем і як сябе паводзім. Той, хто імкнуўся выкараніць у народзе веру як шкодны забабон, быў надзвычай блізарукі. Напэўна таксама не жадаў дабра ні свайму народу, ні дзяржаве...

Біблія вучыць, што вера з'яўляецца дарам падобным да нейкай здольнасці, якую атрымаўшы кожны павінен развіваць. Зерне веры патрабуе, бы кветка, догляду і руплівасці. Вядомы прапаведнік Білі Грэем так пісаў у сваёй кніжцы „Жыццё з Богам": „Я пераканаўся, што калі людзі свядома адкідаюць Хрыста як Госпада, яны робяць гэтак не таму, што хрысціянская навука разумова непрымальная, але таму, што яны хочуць пазбегнуць адказнасці і абавязацельстваў, якія ўскладае на чалавека хрысціянскае жыццё. Гэта іх слабое, самалюбнае сэрца, а не розум ці асвета стаюць між імі і Хрыстом. Яны проста нядзольныя цалкавіта ва ўсім падпарадкавацца і ўступіць Хрысту. Прыкладам чалавека, які паступіў наадварот, можа быць Майсей. У сэнсе кар'еры, дабрабыту і ўлады, якія ў свецкім разуменні з'яўляюцца найбольш прывабнымі, ён меў сапраўды ўсё. Ён выразна бачыў два шляхі і зрабіў невераґодны выбар. Прынёс у ахвяру сваё раскошнае, устабілізаванае жыццё дзеля духоўнай каштоўнасці, якую палічыў важнейшай..."

У наш час рэдка каму здараецца стаяць перад такім драматычным выбарам і звычайна вера не патрабуе невыносных ахвяр. Вера таксама ёсць і павінна быць прыватнай справай, але з другога боку гэта неабыякавая справа. Якая яна і ці ўвогуле ёсць — на гэта і звяртае ўвагу евангельскі Фама.

**а. Канстанцін Бандарук**

# У ПОШУКАХ ХЛЕБА

2 красавіка 1952 г. сям'ю Масальскіх заладавалі на два грузавікі і завезлі на вакзал у Маладзечна і там загрузілі ў быдлячыя вагоны. Былі там старцы, жанчыны і дзеці. Мужчын не было — тыя сядзелі ў астрогах і лагерах. Дазволілі забраць з сабою мяшок сухароў. Людзі плакалі, маліліся. Былі іх сотні, выгнаныя са сваіх дамоў. Вязлі тры дні ў закрытых вагонах. Кожныя тры дні рассоўвалі дзверы і давалі пахлёбку: муку з вадою. Так завезлі нас у Казахстан. Там на нас чакалі запрэжаныя ў валы вазы. Загадалі нам сядаць і павезлі ў стэп.

— Якога злачынства вы дапусціліся? — пытаю Францішка Масальскага.

— Нічога такога мы не зрабілі. Мой дзед паходзіў з беднай беларускай сям'і. У дваццатых гадах два разы выязджаў за хлебам у Амерыку. Там працаваў лесапільшчыкам. Калі прыехаў першы раз, купіў ад шляхціца зямлю. За другім разам паставіў дом і гаспадарчыя будынкі. Дом стаяў на ўзгорку, аколены дрэвамі сярод палёў і лугоў. Маёмасць, на якой гаспадарылі мой дзед і тата, называлі Рабінаўкай. Знаходзілася яна 40 кіламетраў ад Вільні. Пасля вайны палякі з Віленшчыны выязджалі ў Польшчу, пераважна на паўночна-заходнія землі. Бацька лічыў выезд здрадай бацькаўшчыне і астаўся на сваім абрабляць зямлю. Ураднікі загадалі яму вывозіць дрэва з лесу. Не меў чым. А такога, што не выконваў загады ўлад, лічылі ворагам народа. Засудзілі на 10 гадоў астрога. Бацьку арыштавалі, а маёмасць забралі. Мама з дзецьмі перанеслася да сваіх бацькоў. Я, як сын кулака, пасвіў кароў. Пасля нас, кулакоў, вывезлі. Бацькоў мамы аставілі, бо былі бедныя. У Паўднёвым Казахстане, у наваколлі Абай-Базара — стэп. Нас, палякаў і беларусаў, параскідалі па калгасах, каб не сустракаліся з сабою. Жылі мы ў зямлянках, спалі ў карытах высцеленых кукурузнымі сцёбламі. Палілі ў гліняных печках бавоўнянымі кустамі або каровячымі адходамі. Апраналіся ў тое, што прывезлі з сабою.

— Чым харчаваліся?

— Не хачу гаварыць пра дэталі. Пражылі мы, от і ўсё. У 1953 годзе памёр Сталін. Бацька, які адседзеў ужо пяць гадоў у астрозе, быў вызвалены па амністыі. Прыехаў да нас і стаў на працу старажам у школе. Мама працавала пры бавоўне. Наша сітуацыя папраўлялася. Кожная сям'я атрымала па 50 ароў зямлі. Маглі разбіць агарод. Трэба было наваднянць зямлю, бо тая ў тэмпературы 40—50 градусаў перасыхала. Ноччу падкрадалі ваду з бавоўняных палетkaў. Мелі ўжо свае козы, асла, карову. Пабудавалі дом і пакінулі зямлянку. Калі да ўлады ў Польшчы дайшоў Гамулка, мы атрымалі магчымасць выезду з СССР у Польшчу. Цяжка было атрымаць „спраўку" на выезд, нам аднак гэта ўдалося. Спакавалі мы сваё дабро ў чамаданы, селі на поезд і пасля тыднёвага падарожжа апынуліся ў Белай-Падляшскай. Там прайшлі карантын, атрымалі па тысячы злотаў і паехалі ў Арнету, дзе жылі нашы сваякі. Казахскі стэп, з магілай майго дзеда, астаўся за намі.

**Андрэй Гаўрылюк**




ABRAMOWICZ Zofia: Transformacja imion białoruskich na język polski (na podstawie metryk chrztu białostoczan z lat 1919-1985). *Na pograniczu. Studia i szkice,* Białystok 1992, s. 132-137.

BARSZCZEWSKA Nina, GŁUSZKOWSKA Jadwiga: Gwarowe zjawiska językowe w odliczebnikowych nazwach terenowych na wschodniej Białostocczyźnie. *Systemy onomastyczne w słowiańskich gwarach mieszanych i przejściowych. Księga referatów Międzynarodowej Slawistycznej Konferencji Naukowej w Lublinie, 20-23.11.1991 r. Rozprawy Slawistyczne 5.* Lublin 1993, s. 49-62.

BEDNARCZUK Leszek: Stosunki etnolingwistyczne na obszarze Wielkiego Księstwa Litewskiego. Zarys problematyki. *Dzieje Lubelszczyzny, t. VI. Między Wschodem a Zachodem, cz. IV.* Lublin 1992, s. 55-74, dyskusja, s. 72-74.

— Wspólnota komunikatywna Wielkiego Księstwa Litewskiego. *Wilno-Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur. Materiały I Międzynarodowej konferencji Białystok 12-14.09.1989, t. IV: Literatura i język.* Białystok 1992, s. 19-30.

CITKO Lila: Imiona hipokorystyczne w XVI-wiecznych źródłach polsko-białoruskiego pogranicza. *Na pograniczu. Studia i szkice,* Białystok 1992, s. 125-131.

CZYŻEWSKI Feliks, SAJEWICZ Michał: Zróżnicowanie słownictwa rolniczego w kilku gwarach wschodniosłowiańskich na polsko-białorusko-ukraińskim pograniczu językowym. *Slavica Lubliniensia et Olomucensia.* Lublin 1979, s. 151-170.

CZYŻEWSKI Feliks: Uwagi o gwarze osady Widze koło Brasławia na Białorusi. *Studia nad polszczyzną kresową, t. VIII,* Warszawa 1995, s. 71-88.

GLINKA Stanisław: Lituanizmy fonetyczne w gwarach białoruskich i polskich Białostocczyzny. *Bałto-słowiańskie związki językowe. Prace Slawistyczne IS PAN, Slavica nr 81.* Wrocław 1990, s. 117-127.

GŁUSZKOWSKA Jadwiga: Nazwy terenowe od apelatywu kadłub w gwarach wschodniej Białostocczyzny. *Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej* 1989, t. 19, s. 193-199.

— Oboczności rodzajowe w nazwach terenowych wschodniej Białostocczyzny (mikrotoponimy z sufiksem -isko, -isk). *Dzieje Lubelszczyzny, t. VI. Między Wschodem a Zachodem cz. IV. Zjawiska językowe na pograniczu polsko-ruskim.* Lublin 1992, s. 249-255.

GREK-PABISOWA Iryda, MARYNIAKOWA Irena: Współczesne gwary polskie na Litwie i Białorusi. *Mniejszości polskie i Polonia w ZSRR. Instytut Badań Polonijnych UJ.* Kraków 1992, s. 149-152.

KARPLUK Maria: Słownictwo cerkiewne w polszczyźnie XVI wieku. Wybór przykładów. (w:) Chrześcijański Wschód a kultura polska. Lublin 1989, s. 128-147.

KONDRATIUK Michał, KRUK Lila: Polsko-białoruskie i słowiańsko-bałtyckie kontakty językowe w XVI wieku na obszarze północnej Białostocczyzny w świetle nazw osobowych. *Dzieje Lubelszczyzny, t. VI, Między Wschodem a Zachodem, cz. IV.* Lublin 1992, s. 239-245, dyskusja, s. 246-247.

KONIUSZ Elżbieta: O potrzebie słownika regionalizmów Wielkiego Księstwa Litewskiego. *Wilno-Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur, t. IV: Literatura i język.* Białystok 1992, s. 31-42.

KRUK Lila: Z zagadnień XVI-wiecznej antroponimii północnej Białostocczyzny. *Białostocczyzna* 1988, nr 2, s. 1-3.

LIZISOWA Maria Teresa: Interferencyjny charakter słownictwa w przyszłym Słowniku Regionalizmów Wielkiego Księstwa Litewskiego. *Wilno-Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur, t. IV: Literatura i język.* Białystok 1992, s. 43-60.

— Z problematyki badań nad leksyką polskiego języka kancelaryjnego w Wielkim Księstwie Litewskim. *Kieleckie Studia Filologiczne* 1986, nr 3, s. 85-92.

NOWOWIEJSKI Bogusław: Cechy białoruskie w mowie mieszkańców Sokółki. *Dzieje Lubelszczyzny, t. VI, cz. IV. Zjawiska językowe na pograniczu polsko-ruskim.* Lublin 1992, s. 209-224.

— Mowa mieszkańców Sokółki w województwie białostockim. *Polszczyzna północno-wschodnia. Metodologia badań językowych.* Wrocław 1989, s. 87-96.

— Z frazeologii mowy sokólskiej. *Prace Filologiczne* R. 36:1991, s. 309-316.

REICHAN Jerzy: Wyraz kutia w gwarach polskich. *Roczniki Humanistyczne* R. 36:1988, nr 7, s. 45-56.

SIELICKI Franciszek: Mickiewicz i Białoruś. Kilka szczegółów. (w:) Studia o Mickiewiczu. Wrocław 1992, s. 115-126.

— Wierzenia, obyczaje i poglądy życiowe ludu Wilejszczyzny w jego przysłowiach i powiedzeniach okresu międzywojennego. *Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Litteraria* R. 13:1992, s. 86-140 (teksty białoruskie polskiej ludności przesiedlonej do Wrocławia).

SMUŁKOWA Elżbieta: Białorusko-polskie a białorusko-rosyjskie pogranicze językowe. *Słowiańskie pogranicze językowe, Prace Slawistyczne Instytutu Słowianoznawstwa PAN.* Warszawa 1992, s. 165-166.

— Pojęcie gwar przejściowych i mieszanych na polsko-białorusko-ukraińskim pograniczu językowym. *Dzieje Lubelszczyzny, t. VI, cz. IV.* Lublin 1992, s. 21-29, dyskusja, s. 30-33.

— Problematyka badawcza polsko-białorusko-litewskiego pogranicza językowego. *Studia nad Polszczyzną Kresową* R. 5: 1990, s. 151-164.

**Р. С.**

# Радзіма — Родзіна

### Частка VII

Да праблемы Радзімы не раз я вярталася ў размовах са сваёй Маці, Пелагеяй Баршчэўскай. Прагну сказаць, што разважанні на такую тэму як з роднай Маці, так і з іншымі жанчынамі намнога цяжэйшыя чым з мужчынамі. Амаль усе жанчыны, з якімі мне давялося размаўляць, праяўлялі крайнюю сціпласць. Вельмі часта падкрэслівалі, што яны „нідзе не былі і нічога не бачылі" або што разважанні на тэму радзімы „не бабска справа". Аднак у тракце размоў аказвалася, што многія з іх былі нават у Сібіры ў часе бежанства, або ў Германіі ў перыяд гітлераўскай акупацыі і што тып іх эмацыянальных разважанняў і ўспамінаў істотным чынам пашырае нашы ўяўленні аб разуменні ды інтэрпрэтацыі беларусамі паняцця Радзіма. Варта падкрэсліць яшчэ адзін аспект жаночай інтэрпрэтацыі малой і вялікай Айчыны. Інтэрпрэтацыя гэта намнога болей эмацыянальная, чым тая, з якою сутыкаемся ў выпадку мужчынскіх разважанняў аб Айчыне. Што датычыцца маёй Маці, дык размаўляў я з ёю на тэму Радзімы некалькі разоў у шасцідзесятыя і сямідзесятыя гады. Практычна кожная размова распачыналася ад самаабаронных дэкларацыяў тыпу „Божэ мой, Божэ, што ж я табе магу сказаці аб такой важнай справі. Я ж дурная вяскова баба. Жыла ўсё жыцє ў нашай старане і мало калі думала аб гэтай нашай Радзіме. От жыла і ўсё". Аднак пасля ўспамагальных пытанняў амаль заўсёды разгаворвалася і, трэба сказаць, не раз выказвала цікавыя фармуліроўкі і эмацыянальныя прызнанні.

У ходзе адной з першых размоў, праведзеных у красавіку 1963 года, Маці сказала наступнае.

„Што ж я магу табе сказаці пра гэто. Пайшоў бы ты да бацюшкі або да учыцелёў, то яны табе напэўно сказалі б што цікавэ. Яны ж чытают кніжкі і газэты, а там напэўно пра гэто ўсё вельмі разумно напісано. А што я табе магу сказаці? Я ж цэлэ жыцє прасідзела ў Семяноўцы і ў Бандарах. Ну, праўда, гэто то ні зусім праўда, бо я ж хадзіла з семяноўскімі бабамі ў Кіеў, у Пячэрску лаўру, а таксамо ў час першае вайны, то аж за Маскву заехалі ад немцаў уцікаючы. То што ж я табе магу сказаці? Ну, можэ тое, што ўжэ ад дзецінства прывыкалі да роднае стараны. То ж з дзецьмі дзень у дзень хадзілі на рэчку або купацца, або штось мыці, або лавіці рыбу. Ну мы дзяўчата то рыбу ні лавілі, але, бывало, тато пойдут з сачком або кломляю чы невадом, то мы ў кошыках або ў торбах рыбу насілі. Ну а ўжэ калі паяўляліся ў лесі ягады або грыбы, то ад цямна да цямна ў лесі сідзелі. Ой, як харашэ было ў нашых лясах. Я то знала каждэ дзераўцо і каждэ корчык і ніколі ні баялася, што заблуджу. А хадзілі далеко і пад Мядзьведзі, і пад Забрады, і пад Тарнопаль, і пад Лесну і пад Аліхоўку, і пад Масево і аж пад Нараўку. Ну, а ужэ як прышла я ў Бандары, то тут таксамо хадзілі збіраці жураўліны аж на Плянту, а па грыбы пад Слабодку, пад Смольню, у Бандарскі лес, у Рыбацкі, у Танніцкі, у Рудніцкі. А часто то хадзілі у жандовы лес. Але за тае Польшчы то з жандовым лесам не было жартаў. Лесьнічыя, гаёвыя лавілі, ламалі кошыкі, накладалі штрафы або... і лупілі. Ну, мы то вядомо, як маглі так уцікалі, але тады то было, ні тое, што цяпер: ідзі куды хочэш і збірай што хочэш. Ну, бо то бачыш цяпер, ну, як яе, ну значыцца дэмакрацыя.

Ну, то я табе скажу так, бывало пойдзеш у лес, назбіраеш кош грыбоў або ягад, змучышсе, сядзеш і паглядзіш кругом. Я то найбольш любіла глядзець уверх, у кароны дзераваў. Божэ мой, Божэ, колькі ў гэтых галінах хараства! Ну усе роўно як бы зялёны брынджы або якаясь вышыўка, або гафты. Каждa галінка інша і каждa па своему хароша. А праз тое галіє то прабіваецца сонцо і поўзае па зямлі, то прабяжыт табе па руках, то па твары, то па шыі. Ну бо то ведомо, што вецер галінкі калышэ і яны тое сонцо адсланяют то закрывают.

То я сабе сяду пагляджу і так сабе думаю: Божэ, мой Божэ, як гэто ты харашэ гэты свет стварыў і даў нам гэту харошу старану, у каторай і лес е, і выган е, і поле е, і звярына е, і птушкі е. А ўсё ў гэтым лесе шуміт і співае і так мне на душы добра, што я вазьму і памалюсе або ціхо сабе заспіваю песьню. Ну, але мы часто хадзілі грамадою з дзяўчатамі то возьмем і усе разам заспіваем. І добрэ нам у гэтым родным лесе, ну, не раўняючы так, як на Вялікдзень у царкві. От, бачыш што гэто такое Родзіна".

**Алесь Барскі**

# Бульбашае папуры

Ці можна спярша паставіць дом, а потым разглядацца за месцам, дзе б заліць пад яго падмурак?

Можна! Усё можна.

* * *

Напісаў Гісторык кніжку. Кніжку прачытаў Пісьменнік. Пісьменнікі не толькі адно пішуць, але бывае, што і чытаюць. Кніжка Гісторыка вельмі спадабалася Пісьменніку і ён амаль усё ў ёй пахваліў. Не пахваліў толькі аднаго: напісаў шырокай публіцы, што яго гнявіць нядбайнасць шрыфтавага складу, а дакладней кажучы, вёрсткі. А гэтую акурат рабіў я. Прачытаўшы гнеўную экспрэсію Пісьменніка, гнеў ахапіў і мяне. Але я пісаць пра гэта не рваўся, бо я не пісьменнік, што ўжо нешта пісаць мусіць, тым больш пад публіку. Хаця адчуваў я, што заўвага Пісьменніка мецiць у мяне. Заўважу толькі, што якасць звярстання набору залежыць і ад інструментарыя, з якім працуе вярстальшчык. А вартасць інструментарыя гэтага залежыць ад нейкага там бюджэту. Ад якога, я ўжо ўспамінаць не стану: джэнтльмены аб грошах не гавораць; джэнтльмены іх па-просту не маюць.

Мінуў месяц ці два, можа нават і тры, ад гэтай гістарычнай падзеі і прыйшлося мне стаць вярстальшчыкам наступнай кнігі, гэтым разам аўтарства самога Пісьменніка менавіта. Ну, думаю, перакладзіна то тут перада мною высокая, але пастараюся яе адолець акуратненька. Узгодніў я тэхнічныя параметры тэксту з рэдактарам выдання, Паэтам дарэчы, набраў паветра, разгону і даволі гладка ўзяў першую вышыню. Праўда, у нейкі там момант Паэт прыкмеціў, што яшчэ нешта мае вырашаць Мастак, адказны за графічны імідж кнігі. Прыкмецe гэтай не прыдаў я вялікага значэння — ат, касметыка нейкая; асноўныя справы ўжо ж сур'ёзнымі людзьмі вырашаны. І тут проза жыцця сутыкнулася з яго паэзіяй. Мастак, замест паглядзець, што ўжо адвалена шмат работы, з мэты ўзяўся вярнуць усё дагары нагамі. Ён пачаў інтэнсіўныя роздумы, паралельныя з усебаковым аглядам і дакладнымі вымярэннямі, над тым, як павінна быць роблена тое, што ўжо зроблена, гэта значыць тыя дзеянні, якія павінны быць выканаы не пры канцы цэлай работы, але яшчэ перад яе пачаткам. Я Мастака разумею: ён мастак двухмернай прасторы і ён, як мастак, жыве ў гэтым двухвымярэнні і на ім канцэнтруецца. Чатырохмерная прастора, у якой мы рэальна існуем, гэта быццам бы яму падвойная нагрузка і, быць можа, цяжка яму ў ёй функцыяніраваць. Я спрабаваў звярнуць яго, Мастака, увагу на рэаліі, але гэта выклікала нешта ў родзе здзіўлення. Заўважу тут, у прыватнасці, што двухмерныя разважанні Мастака, якіх ён не сакрэціў, вельмі мне па душы, а вялікай цэлебры і дакладнасці, з якімі ён выконваў сваю працу — у мяне поўная пашана. І я тут jestem za, a nawet przeciw. Бо мне тут важнае месца падзей у часе. Было б яшчэ ўсё добра, калі б Мастак прыйшоў на канцы сваёй у той момант працы да такога выніку, да якога дайшоў Паэт на пачатку. Сталася аднак інача. Для мяне гэта абазначала, што ўсё зробленае трэба зруйнаваць і пачынаць нанава. А што на гэта Паэт, які быў пры ўсім прысутны? А Паэт у гэты момант заявіў, што ў яго востры дэфіцыт чацвёртага вымярэння, бо спяшаецца на транспарт. Быццам кароль на шпацыр. Пры гэтай цяперашняй дэмакратыі каралеўскія фанабэры даступныя і ніжэйшым слаюям, а нават і інтэлектуалам. Артысты зрабілі ўжо сваё, хай цяпер вярстальшчык танцуе. А я ані Катарына Віт, ані Віктар Пятрэнка — на шэсць-нуль не выцягну. І пэўна будзе так, што калі кніжка выйдзе і аўтар яе, Пісьменнік, усеўшыся ў фатэлі, пачне лапаць вароны, у сваёй звярстанай мною кніжцы, вядома, дык выкрыкне, мо нават некалькі разоў, слова, якое для аднаго Рэжысёра з'яўляецца сінонімам беларускай лексікі. І ў чый яно будзе адрас? Ну пэўна, што ў мой! Бо хранaлогіі, ці інакш кажучы — парадку, то павінен пільнаваць мо і нейкі рэдактар выдання, але хіба і аўтару не павінна быць яна абыякавай.

* * *

Такую прагматыку, прыкладам якой з'яўляецца парадак (!) прац над гэтай апальнай кніжкай, немцы называюць polnische Wirtschaft. Людзі гавораць, што немцы такія акуратныя і ўсё ведаюць. А вось і не ведаюць, што свет на Польшчы не канчаецца.

Жыве Беларусь!

**Вярстальшчык**

## Ці ведаеце, што...

... на тураў у Белавежскай пушчы палявалі, між іншым, Ягела ў 1409—1410 гадах ды ў 1426 годзе, а затым ягоны сын Казімір Ягелончык і ўнук — Аляксандр Ягелончык з каралевай Галенай. У 1538 годзе кароль Зыгмунт І Стары падпісаў першае правa аб ахове лясоў і паляванні. Пра тураў упамінаюць летапісцы ў 1516, 1526 і ў 1553 гадах.

Затым у люстрацыі ад 1599 года даведваемся ўжо толькі пра тураў у Мазавецкіх лясах Яктароўскай пушчы, каля Равы (было іх тут 24). У 1620 годзе астаўся толькі адзін. Загінуў ён — як апошні ў Польшчы — у 1627 годзе з рук браканьераў. Панаваў тады ў нашай краіне Зыгмунт III Ваза.

... аленяў, якія жылі ў Белавежскай пушчы, выбілі ўсіх, як кажуць, да нагі — у 1705 годзе. Дваццаць аленяў прывезлі ў пушчу ў 1856 годзе з Пшчыны (у рамках абмену за чатыры белавежскія зубры).

**(яц)**




Мой знаёмы, пан Здзіх, малады ўдавец (мяркуючы па маім узросце) быў прымушаны памяняць кватэру. Хату ён меў шыкоўную, у чатыры пакоі, у цэнтры Беластока, крок да вакзалаў, крок да лесу і парку, крок да гандлёвага і адміністрацыйнага цэнтра горада, словам, лепш не хацець. Трое старэйшых дзяцей паспеў паженіць і павыдаваць замуж і здолеў ім назбіраць ды даць грошай крыху на кватэры (на рэшту яны пабралі крэдыты, а іхнія даўгі будуць плаціць яшчэ і ўнукі), пахаваў жонку і астаўся адзін з семнаццацігадовым сынам. Мяняў кватэру не таму, што няёмка было дваім у вялізнай хаце, дзе рэха ганяецца. Давяла да гэтага бяда. Больш — беднасць з-за бяздумнасці, бяздарнасці ды няўмеласці. Маючы пенсію сваю і сынаву па маці, жыў больш года не плацiўшы кватрплаты. За электрычнасць неяк з бядою плаціў, да пэўнага моманту і за тэлефон, пакуль не дарваўся да яго адзін сусед, што патэлефанаваў, карыстаючыся добрым сэрцам суседа, сваёй жонцы (у Бельгію) і не прызнаўся, а сведкаў не было. А грошай павінна ж было хапіць Здзіху перш за ўсё на „рахункі"! Павінен быў жа падумаць, што не сам жыве, што страціць можа кватэру і сынаву!

Пан Здзіх на працягу ўсяго сямейнага жыцця не цікавіўся хатняй эканомікай. Амаль усе свае заробленыя афіцыйна грошы аддаваў жонцы-гаспадыні. Не працавала яна, гадавала дзяцей, трымала дом на сваёй галаве. Здзіха не цікавіла, якім чынам хапае ёй да канца месяца, ці бярэ яна нейкія грошы за вязанне швэдраў, ці гэта толькі яе *хобі.* Меў у хаце быць парадак, усё памытае, папрасаванае, абед на стале і пірог на свята, дзеці дагледжаныя, выпраўленыя ў школу (на сустрэчы ў добрай ці кепскай справе ў школу таксама толькі жонка хадзіла). Колькі раз пры мне нават чуў я словы ў адрас пані Гані, што „нічога яна тут не робіць", што жыве за яго грошы, на яго кошт, што „каб не ён, то пайшла б з торбамі, дурніца". Мела сядзець ды маўчаць, „бо нічога тут не яе, усё за Здзіхава кроўнае..." Калі не стала той „дурніцы", пан Здзіх рукі апусціў. Не змог, кормячы абы-чым сябе і сына, адкласці грошай на неабходныя аплаты. Не плаціў, дарэчы, і таму, бо так шмат хто рабіў, а нікога яшчэ кааператывы на брук не выкінулі, хоць пра гэта бубняць столькі ў газетах. Страшаць, мабыць, тымі *баракамі*, а народ сваё робіць! Ну, вядома, плаціў бы, калі б у яго грошы былі. А адкуль іх узяць? Ну, кожны ведае, адкуль грошы бяруцца. А адкуль іх брала ягоная „дурніца", што і хапала дома на бутэльку піва, на яблыкі і час-часом на шакалад дзецям?.. Спахапіўся Здзіх, калі кааператыў пачаў палохаць судом. Даў аб'яву ў газеце, што за доўг памяняе кватэру на двухпакаёвую. Знайшоў чалавека, які хацеў за ягоную хату аддаць сваю, толькі на 12 метраў меншую, але Здзіх пералічыў, па самаму „чорнаму" курсу, што грошай належыцца яму больш чым вінаваты *спулдзельні* і заспяваў такую суму, што кандыдат адмовіўся. Давялося перайсці з сынам жыць у аднапакаёвую кватэрку са „сляпой" куханькай на ўскраіне горада. З грошай, якія ўзяў за замену, пасля аплаты даўгу мала і засталося. Цяпер Здзіх шукае жонку з кватэраю („хлопец" ён зусім яшчэ „на ходзе" і досыць прыгожы, нягледзячы на сівыя валасы), бо сын яго бурчыць — зацесна ім разам. А жонку нагвалт трэба, бо хтосьці мусіць неяк утрымаць Здзіха, ды і Здзіху язык свярбіць, каб камусці падакучаць, падаграсць якой „дурніцы", што ягоныя грошы марнуе!..

Ну, у мяне такога клопату няма. Жыву адзін, неяк плачу за сваю хатку. Калі мяне нейкая захоча, стаўлю справу ясна: давай, любка, будзем класіку слухаць і гаманіць пра Дух. На ўсякі выпадак так кажу, бо калі што неспадзявана і атрымаецца, хай гэта будзе для абодвух бакоў прыемны сюрпрыз.

**Вандал Арлянскі**

# З нашага жыцця

Васьмідзесяцігадовы Васіль дажываў свой век пры ўнучку і яго сям'і. Пенсію аддаваў унукавай жонцы.

— Нашто мне, старому, грошы, — казаў суседзям. — Зіна мне наварыць, абмые. Папяросаў не куру, гарэлкі не п'ю. Няхай маладыя купляюць, што ім трэба.

Аднойчы, узяўшы ў лістаношы сваю пенсію, сустрэўся дзед з Веркай, маладзейшай ад яго на ўсе сорак. Верка Васілю падабалася — тварам нагадвала яго нябожчыцу жонку. Пайшоў з Веркай у краму і купіў ёй плітку шакаладу. Жанчына падзякавала за падарунак і запрасіла дзеда на абед. Старэча не быў супраць. Верка паставіла пляшку, дала добрую закусь. Дзед не адмовіўся. Ап'янеўшы, уручыў гаспадыні ўсе грошы. Развітаўся, пайшоў убрантавушку дахаты. Не дайшоў — пакаціўся ў роў, дзе заснуў. Ледзьве яго ўнук з праўнукамі знайшлі ў чарнобылі і лапухах. На другі дзень Васіль расказаў сваю шалёную гісторыю.

— Мы ведаем, дзеду, што Верка — хітрыца, але каб з вамі такі „нумар" зрабіць, то ого-го! З франтавіком усіх апошніх войнаў! — смяяліся маладыя.

* * *

— Ці ты кахаеш мяне так, як я цябе? — пытаў хлопец у дзяўчыны.

— Як табе сказаць... Як вада любіць рыбу, так і я цябе! — прызналася паненка.

* * *

Жанчына, якую звольнілі з працы за п'янкі, ішла аднойчы на падпітку з п'яным мужчынам. Сустрэлі сяброўка па працы. Жанчына азвалася:

— Добры дзень!

Не пачуўшы адказу, заверашчала пакрыўджаная:

— Што вы сабе думаеце, што вы такія важныя? Няма чым ганарыцца! Вось я з нарачоным сабе хаджу па вуліцы, а вы ходзіце адны. Ніхто вас не хоча!

* * *

— Тата, — пытае шасцігадовы хлопчык, — скажы мне, што такое каханне?

— Гэта такое штосьці, аб чым думаеш дзень і ноч, і не хочацца табе ад гэтага ні піць, ні есці, а асабліва — спаць.

Аўрора



## Дзіўныя месцы

Мяне вельмі зацікавіла месца, пра якое пісала ў „Ніве" (н-р 15 ад 9.IV.95 г.) Аўрора. Здаецца, у Белавежскай пушчы такіх месц ёсць крыху больш. Пра адно з іх, якое знаходзіцца непадалёку вёскі Падаляны, ведае д-р Сяргей Тарасевіч, які сцвярджае, што ён у ім абавязкова мусіць нейкі час паблудзіць, пакуль знойдзе выхад. Пра іншае месца, што побач вёскі Кутлоўка на ўскраіне Белавежскай пушчы, успамянула некалі на старонках „Нівы" Ганна Кандрацюк. Яна нават абяцала напісаць пра яго больш падрабязна, ды відаць, нешта ёй у гэтым перашкаджае. Усё ж спадзяюся, што яна свае абяцанні такі стрымае.

Я думаю, што наогул добра было б зрабіць нейкую карту ўсіх незвычайных месц на нашай тэторыі. Хто ведае, мо на яе аснове можна будзе зрабіць больш агульныя вывады? Я чытаў некалі ў „Голасе Радзімы", што падобную карту ствараюць у Беларусі (на ёй мелі нават пазначыць месцы, у якіх з'явіліся НЛА, г.зв. „лятучыя талеркі"). Мо яна ўжо і выйшла друкам?

Дзеля дасягнення вышэйзгаданай мэты трэба, каб усе чытачы нашага тыднёвіка напісалі ў „Ніву" пра дзіўныя месцы ў сваіх ваколіцах, пра якія яны ведаюць. Пачатак ужо зрабіла Аўрора...

Пётр Байко



Астроне! Сёння мне прыснілася, што я еду на ўласнай аўтамашыне па сваёй вуліцы ў горадзе, у якім я калісь жыў. Еду я быццам ад свайго дома ў напрамку цэнтральнай вуліцы і раптам... трэсь — лопнула адно кола. Я не мяняю кола, а тут бачу — ужо еду на чатырох добрых колах. Але ж тут наступнае — трэсь!

І ужо не бачу я машыны, не еду на ёй. Хаджу каля нейкіх латкоў з разложанымі таварамі. Гэта на той жа вуліцы. Гляджу, прадаюць тут цыганы. Я хачу ў іх нешта купіць, ужо сабе нават выбраў нейкія дробязі, а тут раптам цыган ці цыганка (не памятаю) засланяе тыя рэчы рукамі ды кажа, што мне іх не прадасць. Я разззлаваўся і падумаў: з цыганамі заўсёды гэтак, верыць ім нельга. Што можа абазначаць гэты сон?

Ігар

Ігар! Няпраўда, што ніводнаму цыгану нельга верыць. Аднак жа ў снах лепш іх не сніць. Пасля такіх сноў можна спадзявацца нейкага ашуканства, падвоху. Ці не будзе гэта звязана з тваім самаходам?! Мо сапраўды колы ляснуць, а з цябе здзяруць тры скуры...

АСТРОН

# ВІРАВАНКА



1. агародная расліна, 2. ільняное валакно, 3. паляванне з загоншчыкамі, 4. каркас, касцяк, 5. пашкоджанне арганізма, 6. частка кампрэсара, 7. будынак для захоўвання збожжа, 8. канец жыцця, 9. сталіца Бірмы, 10. прыправа для рыбных і мясных страў, 11. горад у Кітаі.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 11 н-ра:**

**Гарызантальна:** Одра, Чэхаў, стужка, асот, пілот, апатыя, рэпартаж, страх, арнамент, раслінка, асака, Сухаволя, салома, Асвея, муза, марабу, Арыка, твар.

**Вертыкальна:** рэлікт, разора, дастатак, астат, Сураж, скрып, тэхнікум, парабала, сорт, Русь, Сена, Этна, развязка, сястра, кветка, базар, сокат, хамут.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Красоўскаму** з Бельска-Падляшскага і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.




## Капрыз вясны

Вецер вее,
Сонца грэе,
І цяплей
І весялей.
Трэлі птушак,
Рої мушак —
Усё звіціць,
Барабаніць.
Ні адтуль,
Ні адсюль
Снег упаў
І прапаў.
Вецер вее,
Сонца грэе,
Час ляціць —
Так нам жыць.

Мікалай Панфілюк




Замшавыя пальчаткі і абутак лепш за ўсё чысціць растворам нашатырнага спірту (адна частка нашатырнага спірту і чатыры часткі вады). Пратрыце рэч ваткай, змочанай у растворы, мяняючы яе па меры забруджання, а затым патрыце ваткай, змочанай у чыстай вадзе, змякчанай воцатам (на літр вады чайную лыжку воцату).

*

Калі на сукенку ўпала кропля тлушчу, пасыпце пляму соллю і старанна вытрыце яе. Соль трэба змяніць некалькі разоў, пакуль пляма не знікне.

*

Плямы цвілі з бялізны можна выдаліць наступным чынам. Змачыць пляму сумессю соку лімона з вадой (2/3 вады і 1/3 соку), пасыпаць на пляму дробнай солі, даць прасохнуць і затым памыць.

*

Шкляныя вазачкі, шклянкі набудуць бляск, калі да вады, у якой мыюць, дадаць 1—2 лыжкі воцату і лыжку солі.

*

Калі шыеце што-небудзь з вельмі тонкай тканіны (шыфону, крэп-жаржэту), пакладзіце пад матэрыял ліст тонкай белай паперы, будзе зручней шыць.

# Ваўкі

У пачатку 50-х гадоў ацэньвалася, што ў Польшчы ад ваўкоў гінула каля 2 000 дамашніх жывёл у год. Была прынята ўрадавая праграма знішчэння гэтага звяра, якая рэалізавалася ў 1950—1970 гадах. За гэты час лік ваўкоў паменшаў у 10 разоў: у 1970 г. засталося іх каля сотні. Трывога, паднятая вучонымі, уратавала ваўкоў. Цяпер жыве іх у Польшчы каля 900 штук: 600 у Карпатах, 200—250 на паўночным усходзе і каля 50 штук у наваколлі Гажова-Велькапольскага, адкуль сталі пранікаць у Брандэнбургію.

Цяпер воўк рэдка выходзіць з лесу. Там палюе на казулі, аленяў і дзікоў а нават і на грызуноў. На даманшою жывёлу не нападае. Ваўкі з'яўляюцца добрымі паляўнічымі і вельмі добрымі селекцыянерамі дзікай звярыны. Жывуць у статках па 3—5 штук, хаця наглядаюцца групы і па 12—14 штук. Сваю тэрыторыю значаць памётам і выццём і бароняць ад іншых ваўкоў. Воўчы гон адбываецца ў лютым і сакавіку. Пасля дзевяці тыдняў нараджаюцца малыя, якія пасля далейшых шасці тыдняў пачынаюць вылазіць з нораў.

Паляўнічы сезон на ваўкі доўжыцца ад жніўня да сакавіка. Паляваць можна ў Кросненскім і Сувальскім ваяводствах.

Андрэй Гаўрылюк

# Сын мельніка мельнікам

Павел Рэзанка паходзіць з Палесся. У 1993 годзе разам з супольнікамі купіў млын у Мніхаве каля Рэшля (Ольштынскае ваяводства).

— Бацька меў млын на Палессі, — расказвае, — а пасля тут, у Срокаве, але ў 1952 годзе забралі яго ў казну. Калі чатыры гады пазней прабавалі яго вярнуць назад, камуністы не дазволілі і так ужо асталося. Мельніцкай практыкі ў мяне мала, крыху што ў бацькі працаваў. Амаль цэлае жыццё працаваў у ПОМе, але ўсё марылася, каб прадаўжаць бацькаву прафесію. Ну і калі ў Польшчы наступілі змены, вырашыў ажыццявіць свае мары: пачаў разглядацца за млынам. Млын пад Рэшлем выглядаў марна: саветы ў 1945 годзе павывозілі адсюль машыны — толькі дзіркі ў падлозе асталіся. Даўней было тут дзве водныя турбіны, паравы лакамабіль, адзін дызельны і пару электрычных рухавікоў. Да канца 80-х гадоў быў тут склад збожжа. Будынка ніхто не рамантаваў і калі пайшоў у руіну, паставілі яго на продаж. Купілі мы яго разам з грунтам. Цяпер у будынку кіпіць работа — спецыяльная брыгада мантуе прывезеныя з усходняй Нямеччыны машыны. Усё будзе пад электрычным заводам. Са збожжам не павінна быць клопату — навокал добрая, пшанічная зямля, а калі трэба будзе, то і за граніцай купім. Мука таксама павінна расходзіцца — людзям жа без хлеба не жыць. На працу думаем прыняць 20 асоб; ахвотныя ўжо ёсць. Нашы машыны змогуць перарабляць 100 тысяч тон збожжа ў суткі.

Астаецца пажадаць, каб млын добра малоў.

Андрэй Гаўрылюк




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Здубавецця

### Радзей

Сын прыслаў маці ліст, напісаны дужа ўбарыстым почыркам, густа.

Маці і папрасіла ў адказ у лісце: „Сынок, пішы радзей, бо вочы мае кепска бачаць...”

І сын пачаў пісаць гады ў рады. Зразумеў маці.

### Дзеці вінаватыя

Шляхцянка ў касцёле трымае набажэнства дагары нагамі. І суседка, якая ўмее чытаць, пытаецца, чаму пані так набажэнства трымае. Шляхцянка адказвае:

— То дома дзеці пшэвруцілі.

### Слабы зрок

Унук паказвае бабулі сшытак:

— Ці добра напісаў?

— Дрэнна.

— Цяпер, бабуля, я сапраўды бачу, што ў цябе слабы зрок.

### Злаўлю!

Трохі прыдуркаваты бегаў па даваеннаму мястэчку і крычаў:

— Янкель, купі шчупака!

— Дзе ён?

— Злаўл-лю-лю!

*(Вожык)*







Мал. А. Гармазы

## Смех у санаторыі

Савецкая дэлегацыя наведвае ферму ў Амерыцы, дзе расце прыгожая пшаніца.

— А як вам удаецца пшаніца? — пытае фермер калгасніка.

— У нас пшаніца расце як тэлефонныя слупы.

— Такая высокая?

— Не, так густа.

* * *

— Пан майстар, рускія выпусцілі спутніка!

— Ну і што тут такога? Адседзеў сваё і выпусцілі.

* * *

Крамлёўскі цырульнік стрыжэ Брэжнева:

— Што там, таварыш Леанід Ільіч, чувацъ у Польшчы?

Брэжнеў нешта буркнуў.

Праз пяць хвілін цырульнік зноў пытаецца:

— А ў Польшчы, што новага чуваць?

Сітуацыя паўтараецца яшчэ некалькі разоў. Урэшце Брэжнеў знерваваўся:

— Чаго вы мяне ўсё пра гэтую Польшчу распытваеце?!

— Бо мне лепш стрыгчы, калі вам валасы дыбам становяцца.

* * *

Экзамен у медыцынскай акадэміі:

— Прашу назваць тры найбольш у Польшчы распаўсюджаныя сексуальныя дэвіяцыі, — звяртаецца прафесар да студэнта.

— Гомасексуалізм, мазахізм і любоў да Расеі.

* * *

Кавальскага паклікалі ў партыйны камітэт:

— Падманулі вы нас: калі ўступалі ў партыю, вы напісалі, што ваш бацька быў шахцёрам. А мы даведаліся, што ён быў уласнікам публічнага дома.

— Тут усё праўда: мой тата заўсёды гаварыў, што публічны дом гэта сапраўдная капальня золата.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

*Вядзьмак Лысагорскі*

## Лука Мудзішчаў — прэзідэнт

Наш прэзыдэнт Лука Мудзішчаў
(Даруй нам, Пушкін, вольны тон)
Меў дужа грозныя вусішчы
І надта сіплы барытон.

Ён быў дырэктарам саўгасу —
Надойваў рэкі малака,
Даваў дзяржаве бульбу, мяса...
„Чырвоным панам” быў Лука.

Умела кіраваў? Няўмела?
Хай скажуць курыца і гусь.
Ды думка ў галаве засела:
„Я осчастливлю Беларусь”.

І вось без дапамогі таты
(Пра тату ён не ўспамінаў)
Лука пралез у дэпутаты,
Трыбуну спрытна асядлаў.

О, наш Лука мастак-прамоўца!
Паслухаць — чысты Цыцэрон!
Па-беларуску ж ані слоўца,
Ня ўмеў на мове шпарыць ён.

Хоць, праўда, у Вярхоўнай Залі,
Як БНФ крытыкаваў,
Грымеў Лука: „Яны ка-а-залі!..”
Пра што казалі — не казаў.

Падохлі сьвіньні. Мруць каровы.
Чым ашчасьлівіць свой народ?
І супраць беларускай мовы
Мудзішчаў аб'явіў паход.

Хоць як падумаць — сьмех дый сорам.
З кім ваяваць Лука гатоў?
Мудзішчаву ж ледзь-ледзь за сорак,
А МОВЕ — тысячы гадоў.

Жрэ беларускія каўбасы,
Па-беларуску ж ні гу-гу.
Ды за такое папуасы
Яго пусьцілі б на рагу.

Злысеў — так грыз граніт навукі,
Аж дзьве закончыў ВЭ-НЭ-У,
А як узяў уладу ў рукі.
Спыніўся конь. Ні тпру, ні ну.

Затое сябра ён у Боры,
Бо Ельцын „старший брат родной”.
І усе Славянскія Саборы
Ваююць за Луку сьцяной.

Курс геаграфіі асіліў
І ўсяму сьвету далажыў,
Што нарадзіўся ён з Расеяй
На самай-саменькай мяжы.

У паклоне пазваночнік хруснуў
І сьлёзы шчасця пацяклі.
І стаў Лука надзіва „рюскім”,
Русей за Бору у Крамлі.

Хоць лысы, але ўсё ж ня Ленін.
Вянец табе — САЎГАСНЫ ДВОР.
І тут лірычным адступленьнем
Аздобіць хочам мы свой твор.

Будзь ты хоць цмокам трохгаловым,
З каронаю на галаве,
Дарэмна зьдзекуешся з МОВЫ —
Яна цябе перажыве.

Яна, цярпліваца сьвятая,
Свой ясназорны пройдзе шлях,
Цябе растопча, не спытае —
А хо там блытаўся ў нагах?

Бо не прывыкла МОВА плакаць,
Стварыла столькі цудаў-дзіў,
Калі 'шчэ ты за вугал какаць
У мокрых штоніках хадзіў.

Давеку Шкловам застанецца
Наш беларускі горад Шклоў,
Хоц можаш ты сваім указам
Шклоў перайначыць у „Стеклов”.

Бо за цябе (сабе на згубу)
Галасавалі („слава всем!”)
Ня восемдзесят тры, як трубіш,
А пяцьдзесят (і толькі) сем.

Што ж, весяліся. Стаў свой нумар.
Ды знай — прыходзіць, як вясна,
Народны беларускі гумар —
І хохмачкам тваім хана.

Гані людзей у свой фарватар
І разьдзімай, як Сталін, вус,
Галоўны наш русіфікатар,
Галоўны антыбеларус.

Дайшлі да кропкі мы. Да „точки”,
Як кажаш ты, наш гаваркі.
Цалуй пісклявым дамам шчочкі.
Еш з запаведніка грыбкі.

Мы незалежнасьць сваю цэнім,
Сабе паны мы і князі.
А ты ў Расею „на каленях”
Паўзі, як вуж, як сможаш, паўзі.

Тваіх „речей” зубадрабілкі
Абрыдлі. Гэта хоць „пойми”.
Не Беларусь, карову Мілку
Хоць раз уволю накармі.

Вядзьмак Вядзьмарыч Лысагорскі
Свой абвяшчае прыгавор:
„Чым па трыбунах зраньня гойсаць,
Абгарадзі уласны двор.

Хоць ты сіпіш-гарыш на працы,
Хоць ты адзін „умнее всех”,
Зь цябе народ пачаў смяяцца
Не забароніш гэты сьмех!”

Над Беларусяй вецер сьвішча.
Пасохлі бульба і авёс.
Наш прэзыдэнт Лука Мудзішчаў
Садзіцца ў чорны членавоз.

*(перадрук з менскай газеты „Свабода”)*

P.S. У наступным нумары надрукуем адказ Лукі Мудзішчава Ведзьмаку Лысагорскаму.

## СЕНТЭНЦЫІ

Цярплівы
і з вады выкрасае агонь.

* * *

Адвярніся ўзад —
і ўбачыш уласны твар.

* * *

Несмяротнасць ёсць там,
дзе няма часу.

* * *

Не мерай добрай хвіліны —
жыве, што матыль.

**Барыс Руско**




Дарагое Сэрцайка! Я табе пішу, бо нікому-нікому ў свеце не магла б сказаць таго, чым хачу падзяліцца з табою. У мяне ёсць прыяцелька, якая выхоўвалася без маці. Маці яе памерла, калі была яна яшчэ ў дашкольным узросце. Пасля была мачыха, і таму ўсё жыццё панядце „маці” — гэта для яе нешта цудоўна-абстрактнае, нязвыкла-добрае, недасягальнае. Усім добра, бо маюць маці, а ёй — кепска, бо яе не мае.

А ў мяне маці ёсць, але мне сорамна прызнацца да гэтага. Усе думаюць, што я без бацькоў. Ніякай увагі ні ў адносінах да мяне, ні да траіх маіх дзяцей мама не аказвае. Мама жыве на вёсцы, а я — у Беластоку. Бацька памёр, і мама жыве там толькі з маім нежанатым 30-гадовым братам. У мамы добрая пенсія, бо калісь працавала ў гміне, брат працуе, маюць таксама добры агарод, гадуюць свіней, курэй, качак. Жывецца ім зусім някепска. Мяне гэта, вядома, цешыць.

Смутак агортвае мяне тады, калі надыходзяць святы. Амаль усе мае сяброўкі едуць тады на вёску да бацькоў. Як яны рыхтуюцца! Купляюць нейкія падарункі бацькам, нешта новае шыюць, робяць спецыяльныя прычоскі. Едуць раней, напрыклад, на Вялікдзень — ужо ў суботу, каб раненька быць ужо на снеданні ў бацькоў.

А мяне з маімі дзеткамі ніхто не запрашае. Я разумею сваю сітуацыю: каму патрэбна баба з траіма дзецьмі, а да таго кінутая мужам. Але мама?!

Мама мае да мяне прэтэнзію, што сустракаюся з маладым чалавекам, можна сказаць, жыву з ім без шлюбу. Сказала, што гэта вялікі грэх, і ад таго часу нават не толькі не запрашае на свята, але нават віншавальнай паштоўкі не прышле. Часамі напішу ліст, але і то звяртаецца ў ім толькі да дзяцей. А мяне — як бы і не было.

Два гады таму брат паехаў заграніцу. Мама засталася адна, а тут бульбу трэба капаць. Ну, паехала я, наняла капачку, грошай у мамы не прасіла, усю бульбу разам з дзецьмі выкапала. Мама кажа: „Ну, цяпер і ты на зіму сабе бульбы возьмеш!” Мае мяшкі пакінулі наверсе, а рэшту ссыпалі ў пограб. Я падумала, што найму нейкі транспарт і сваю бульбу перавязу.

Тым часам вярнуўся брат. Я прыехала па бульбу са знаёмым, а маці кажа: „Спытайся ў Жэніка (брата), ці можна тую бульбу ўзяць!” Я, як стаяла на парозе, так павярнулася назад і паехала дахаты. Без бульбы, вядома.

Але ці ж на маці можна доўга злавацца?! Зламала яна нагу, а брат ізноў заграніцай. Узяла я водпуск, ды да мамы. Даглядала яе, варыла, прыбірала. Калісь збіраюся варыць абед, пытаю, што ўзяць з лядоўкі, а яна кажа мне: вазьмі, што хочаш. Узяла я першы кавалак, які трапіў пад руку. Адмаразіла: галёнка. Зварыла яе, а мама ў крык: „Ай-яй-яй! Я ж яе Жэніку трымала, ён так любіць галёнку”. Пайшла я ў краму, адкупіла тую няшчасную галёнку. Маме адлягло.

Хоць бы падумалі мае блізкія, што я адна гадую трое дзяцей. Сама сабе вінавата, кажа мама, калі мужа не ўтрымала. Заб'юць якога кабана, дык брат знаёмым у Беласток вязе, а мне — ні кусочка, каб дзеці свежыны спрабавалі!

Сумна мне, дарагое Сэрцайка. Парай, як жыць! Часамі клянуся, што ніколі ўжо не памагу маці, але ж прыходзіць бяда, і я ізноў забываюся.

Няма між намі пачуццяў, як між маці і дачкой. Выхоўваў мяне бацька ў горадзе, бо там у яго быў дом. Брат быў заўсёды з маці на вёсцы, дык ён ёй блізкі. Мы з бацькам да мамы ездзілі толькі на суботу і нядзелю. Калі бацька перайшоў на пенсію, дык прадаў дом і толькі тады пераехаў на вёску. Я засталася ў горадзе.

Ці сапраўды тое, што я жыву з мужчынам без шлюбу, можа быць прычынай таго, што маці не мае да мяне пачуццяў?

**Крыся**

Крыся! Думаю, што гэтых пачуццяў яна ніколі не мела. Вы — чужыя людзі. А гэта горш яшчэ, чым мачыха. Там хоць пасварыцца ёсць за што. Але даруй ёй гэта і пастарайся быць прынамсі ты дачкою.

**Сэрцайка**